ПРАЛЕТАРЫІ ЎСІХ КРАІН, ЯДНАЙЦЕСЯ!

# Літаратура і Мастацтва

ВЫДАЕЦЦА З 1932 г.

ОРГАН МІНІСТЭРСТВА КУЛЬТУРЫ І ПРАЎЛЕННЯ САЮЗА ПІСЬМЕННІКАЎ БССР

№ 18 (2649) • Субота, 5 мая 1973 года • Цана 8 кап.

«СВАБОДНАЯ ПРАЦА І ТРЫВАЛЫ МІР СПРАДВЕКУ БЫЛІ ІДЭАЛАМ УСІХ НАРОДАЎ. МЫ, САВЕЦКІЯ ЛЮДЗІ, ЗВЕДВАЕМ ЗАКОННАЕ ПАЧУЦЦЁ ГОРДАСЦІ У СУВЯЗІ З ТЫМ, ШТО ВЫЗВАЛЕННЕ ПРАЦЫ БЫЛО ПАЧАТА НА НАШАЙ ЗЯМЛІ Ў ДНІ ВЯЛІКАГА КАСТРЫЧНІКА, ШТО ІМЕННА НАША КРАІНА ВОСЬ УЖО 55 ГАДОЎ МОЦНА ТРЫМАЕ СЦЯГ ТРЫВАЛАГА МІРУ І ДРУЖБЫ УСІХ НАРОДАЎ ЗЯМЛІ...»

Л. І. БРЭЖНЕЎ.

## 9 МАЯ—ДЗЕНЬ ПЕРАМОГІ!



## У КАМІТЭЦЕ ПА МІЖНАРОДНЫХ ЛЕНІНСКІХ ПРЭМІЯХ «ЗА ЎМАЦАВАННЕ МІРУ ПАМІЖ НАРОДАМІ»

19 красавіка г. г. пад старшынствам акадэміка Скабельцына Д. В. адбылося пасяджэнне Камітэта па міжнародных Ленінскіх прэміях «За ўмацаванне міру паміж народамі».

Камітэт разгледзеў паступіўшыя прапановы аб прысуджэнні міжнародных Ленінскіх прэмій за 1972 год і прыняў пастанову па гэтаму пытанню.

ПАСТАНОВА КАМІТЭТА ПА МІЖНАРОДНЫХ ЛЕНІНСКІХ ПРЭМІЯХ «ЗА ЎМАЦАВАННЕ МІРУ ПАМІЖ НАРОДАМІ»

## АБ ПРЫСУДЖЭННІ МІЖНАРОДНЫХ ЛЕНІНСКІХ ПРЭМІЙ «ЗА ЎМАЦАВАННЕ МІРУ ПАМІЖ НАРОДАМІ» ЗА 1972 ГОД

За выдатныя заслугі ў барацьбе за захаванне і ўмацаванне міру прысудзіць міжнародныя Ленінскія прэміі «За ўмацаванне міру паміж народамі»:

**БРЭЖНЕВУ Леаніду Ільічу**—Генеральнаму сакратару ЦК КПСС.

**Сальвадору АЛЬЕНДЭ ГОСЕНС** — прэзідэнту Рэспублікі Чылі.

**Энрыке ПАСТАРЫНА** — старшыні Сусветнай федэрацыі прафсаюзаў (Уругвай).

**Джэймсу ОЛДРЫДЖУ** — пісьменніку, грамадскаму дзеячу (Англія).

*Старшыня камітэта*
Скабяльцын Д. В. (СССР)
*Члены камітэта:*
Аляксандраў Г. В. (СССР)
Луі Арагон (Францыя)
Блахін Н. Н. (СССР)
Мір'ям Вірэ-Туамінен (Фінляндыя)
Рэната Гутуза (Італія)
Анна Зэгерс (ГДР)
Кешаў Дэва Малавія (Індыя)
Хуан Марынельо (Куба)
Пабла Неруда (Чылі)
Томскі Н. В. (СССР)
Георгій Трайкаў (Балгарыя)
Каору Ясуі (Японія)







*Адшумела, адгаманіла, адспявала першамайскае свята. Па вуліцах гарадоў і вёсак у чырвані сцягоў і транспарантаў прайшлі калоны дэманстрантаў.*

*На здымках нашага фотакарэспандэнта Ул. Крука — святочная дэманстрацыя ў Мінску.*

# ТАБЕ, ПАРТЫЯ, НАША ЎДЗЯЧНАЕ СЛОВА!

## ПАЛЫМЯНЫ ЗМАГАР ЗА МІР

З вялікай радасцю даведаўся я, як і ўсе савецкія людзі, усё прагрэсіўнае чалавецтва аб прысудженні міжнароднай Ленінскай прэміі «За ўмацаванне міру паміж народамі» Генеральнаму сакратару ЦК КПСС Леаніду Ільічу Брэжневу.

Сваёй самаадданай працай у імя росквіту нашай краіны, умацавання дружбы, супрацоўніцтва і міру паміж народамі Леанід Ільіч заслужыў глыбокую павагу ва ўсім свеце.

А што можа быць важней, чым барацьба за захаванне і ўмацаванне міру. Знаходзячыся на адказным партыйным пасту, таварыш Леанід Ільіч Брэжнеў аддае ўсе сілы пасяховаму будаўніцтву камунізму.

У Справаздачным дакладзе на XXIV з'ездзе КПСС, у дакладзе аб 50-годдзі СССР ясна і мудра выкладзена пазіцыя нашай партыі, нашага народа ў барацьбе за мір. Мы, работнікі мастацтва, заўсёды звяртаемся да гэтых гістарычных дакументаў і заўсёды знаходзім для сябе натхняючае слова Леаніда Ільіча, вучымся як лепш працаваць і змагацца за новыя поспехі.

Сардэчна віншуючы таварыша Л. І. Брэжнева з высокай узнагародай, калектыў Беларускага дзяржаўнага акадэмічнага тэатра імя Янкі Купалы шчыра жадае Леаніду Ільічу добрага здароўя і новых сіл у высакароднай працы на карысць савецкага народа і прагрэсіўнага чалавецтва ўсяго свету.

**З. СТОМА,**
**народны артыст СССР.**

## У ІМЯ ШЧАСЦЯ І ПРАГРЭСУ

Усё прагрэсіўнае чалавецтва вітае ў гэтыя дні лаўрэатаў міжнароднай Ленінскай прэміі «За ўмацаванне міру паміж народамі». І нам, савецкім людзям, асабліва радасна, што сярод іх Леанід Ільіч Брэжнеў, Генеральны сакратар ЦК КПСС.

Мір на зямлі. Ніхто не ўмее цаніць яго так, як мы. Яшчэ не сцерліся ў памяці жахі мінулай вайны. І ніхто не кампенсуе страты, якія мы панеслі, бо кожны чалавек непаўторны. Людзі мараць жыць спакойна, гадаваць дзяцей, сеяць хлеб, тварыць... Таму няма для нас нічога больш дарагога, чым мір на ўсёй зямлі. А ён у многім залежыць ад мудрасці палітыкі нашай партыі, нашай дзяржавы.

Ва ўсім свеце ведаюць Л. І. Брэжнева як нястомнага барацьбіта за ўмацаванне міру і бяспекі народаў. Ён шмат зрабіў, каб дабіцца далейшай разрадкі напружанасці. І за гэта мы яму бясконца ўдзячныя.

Прысуджэнне міжнародных Ленінскіх прэмій адбылося якраз у тыя дні, калі ўсе савецкія людзі знаёміліся з матэрыяламі Пленума ЦК КПСС, які толькі што адбыўся. На ім ішла гаворка аб салідарнасці з братнімі народамі, аб мірным суіснаванні з дзяржавамі іншага сацыяльнага ладу, аб неабходнасці заўсёды і ўсюды даваць адпор імперыялізму.

Я думаю, разважаючы цяпер аб гэтым, як адказна быць мастаком у наш час. Як многа яшчэ маецца нам зрабіць, каб унесці свой уклад у вялікую справу міру. Мы прыкладзем усе намаганні, каб быць вартымі той вялікай дзяржавы, у якой мы нарадзіліся і жывём.

**У. СТАЛЬМАШОНАК,**
**мастак.**

## МЕСЦА Ў СТРАІ

Сацыялізм і мір — паняцці непадзельныя.

Гэта вынікае з самой сутнасці сацыялістычнага ладу, з усёй міжнароднай палітыкі Савецкага Саюза і іншых краін сацыялізму. Гэтая палітыка вельмі правільна і дакладна называецца міралюбівай, яна знаходзіць водгук і падтрымку ў сэрцах мільёнаў і мільёнаў людзей свету.

Сацыялізм і мір — паняцці непадзельныя. Так сказаў на першамайскім мітынгу на Краснай плошчы ў Маскве Генеральны сакратар ЦК КПСС Л. І. Брэжнеў.

І вельмі знамянальна, што Л. І. Брэжневу прысуджана міжнародная Ленінская прэмія «За ўмацаванне міру паміж народамі».

Мір — найважнейшая ўмова нашых сённяшніх і будучых поспехаў у камуністычным будаўніцтве, без міру немагчымы дабрабыт народаў і сацыяльны прагрэс. Я з'яўляюся ўдзельнікам Вялікай Айчыннай вайны, я бачыў страшэнныя спусташэнні, якія прынеслі на нашу зямлю нямецка-фашысцкія захопнікі. Мільёны нашых людзей загінулі на вайне. Нельга забыць усё гэта. І ад усяго сэрца далучаешся да сказанага Л. І. Брэжневым: «Мы заклікаем пераадолець крывавае мінулае Еўропы не для таго, каб забыць яго, а для таго, каб яно ніколі не паўтарылася».

Барацьба за захаванне і ўмацаванне міру — адна з найважнейшых частак мнагаграннай дзейнасці ЦК КПСС і Савецкага ўрада. Вялікія заслугі ў гэтай справе Генеральнага сакратара ЦК КПСС Л. І. Брэжнева, з чым імем цесна звязана ажыццяўленне Праграмы міру, вызначанай XXIV з'ездам КПСС. Пленум Цэнтральнага Камітэта партыі, які адбыўся гэтымі днямі, адзначыў вялікія дасягненні ў справе рэалізацыі прынятай з'ездам Праграмы міру. Гэта радуе кожнага савецкага чалавека. І кожны савецкі чалавек разумее, што сваёй сумленнай працай на сваім участку ён не толькі ўносіць уклад у камуністычнае будаўніцтва, а і ўмацоўвае справу міру. Гэтак жа і мы, пісьменнікі, бачым сваё месца ў страі, сваю найпершую задачу — павышаць творчую і грамадзянскую актыўнасць, пастаянна мацаваць сувязі з жыццём, што з'яўляецца неабходнай умовай новых высокаідэйных і высокамастацкіх твораў аб нашай сучаснасці.

**Аркадзь МАРЦІНОВІЧ,**
**сакратар партбюро СП БССР.**

## УРУЧЭННЕ ДЗЯРЖАЎНЫХ ПРЭМІЙ БССР

*У Мінску ў зале пасяджэнняў Савета Міністраў БССР 28 красавіка адбылося ўрачыстае ўручэнне Дзяржаўных прэмій Беларусі.*

*Дыпломы і ганаровыя знакі лаўрэатаў Дзяржаўнай прэміі БССР у галіне літаратуры, мастацтва і архітэктуры ўручаюцца пісьменнікам К. Т. Кірэнку, І. Я. Навуменку і Ц. В. Крысько (Васілю Вітку), кампазітару Ю. В. Семяняку, мастаку А. М Кашкурэвічу, рэжысёру І. С. Папову і кінадраматургу К. Л. Губарэвічу.*

*Старшыня Савета Міністраў БССР Ц. Я. Кісялёў сардэчна павіншаваў лаўрэатаў Дзяржаўнай прэміі БССР за 1972 год, пажадаў ім вялікіх творчых поспехаў на карысць Савецкай Радзімы.*

*На ўручэнні Дзяржаўных прэмій прысутнічалі сакратар ЦК КПБ А. Т. Кузьмін, загадчыкі аддзелаў ЦК КПБ А. Ц. Караткевіч, С. В. Марцалеў, старшыня Камітэта па Дзяржаўных прэміях БССР у галіне навукі і тэхнікі М. А. Барысевіч, старшыня Камітэта па Дзяржаўных прэміях БССР у галіне літаратуры, мастацтва і архітэктуры П. У. Броўка.*

## ЗАДАЧЫ ВЫЗНАЧАНЫ

Адбыўся чарговы партыйны сход камуністаў Саюза пісьменнікаў Беларусі. На парадку дня пытанне — «Вынікі сумеснага ўрачыстага пасяджэння ў Маскве і задачы камуністаў па далейшым умацаванні ідэйна-палітычнай работы, інтэрнацыянальнага выхавання працоўных у святле патрабаванняў даклада Л. І. Брэжнева «Аб пяцідзесяцігоддзі Саюза Савецкіх Сацыялістычных Рэспублік».

З дакладам выступіў сакратар ЦК КПБ тав. Кузьмін А. Т.

У спрэчках па дакладу выступілі К. Кірэенка, А. Куляшоў, Г. Папоў, Хв. Жычка, А. Асіпенка, А. Кулакоўскі, Г. Бураўкін, А. Міронаў, П. Шаўцоў, І. Мележ, А. Дзеружынскі, І. Шамякін, А. Бачыла.

Сход аднадушна прыняў пастанову па дакладу, якая падкрэслівае неабходнасць далейшага паляпшэння ідэйна-палітычнай работы партарганізацыі СП БССР і павышэння творчай актыўнасці пісьменнікаў.

Алесь ВЕЧАР

## ЗВАРОТ ДА СЛОВА

*Дзіўлюся табе, чалавечае слова!*
*Дзіўлюся вялікаму мностcounterву твайму.*
*Ты можаш быць моцным,*
*Ты можаш быць кволым*
*І словам, якім пачынаюць вайну.*
*Ёсць словы-тварцы,*
*Ёсць словы-салдаты,*
*І словы без сэнсу — адна балбатня.*
*На свеце існуе слоў вельмі багата,*
*Але найжахлівей іх слова «вайна».*
*Скажы,*
*Ці затым чалавеку быў дадзен*
*Магутнага слова каштоўнейшы дар,*
*Каб ён, паддаючыся слоўнай*
*прынадзе,*
*Сам па планеце раздзьмухваў пажар.*
*Дык хай жа і ў розум не траціцца*
*вера!*
*За гэта змагаўся нязломны В'етнам,*
*За веліч сваю чалавека над зверам*
*І слова таксама змагалася там.*
*Яно палымнела на тварах плакатаў,*
*Яно вырывалася крыкам грудзей,*
*Яно ганьбавала злачынцаў і катаў,*
*Яно падымала мільёны людзей.*
*Я слаўлю цябе, ваяўнічае слова!*
*За праўду і мір ты ваюеш даўно.*
*Ты можаш быць сказана рознаю*
*мовай,*
*Аднак жа ты значыш усюды адно.*
*Скажы мне,*
*З чаго твая сіла ўзнікае,*
*Адкуль цябе жывяць крыніцы*
*надзей?*
*Быць можа прыйшла ўжо эпоха*
*такая,*
*Што слова ідзе ў авангардзе падзей.*
*Сабраць, як бы войска, вялікія словы,*
*Паставіць сцяною насупраць вайны,*
*Каб сілай сваёю жывыя асновы*
*Для дружбы народаў стваралі яны.*

## ПРОЗА ЖЫЦЦЁВАЯ, ПРАЎДЗІВАЯ

Творчы вечар Івана Чыгрынава, які адбыўся нядаўна ў клубе Саюза пісьменнікаў, сабраў шмат прыхільнікаў яго янага таленту. Прыйшлі не толькі пісьменнікі, але і ўдзельнікі гайны, вучоныя, студэнты.

Вёў вечар Янка Скрыган. Цёплае слова пра раман «Плач перапёлкі» сказаў народны паэт Беларусі Аркадзь Куляшоў, крытык Рыгор Бярозкін.

Сваімі думкамі аб творчасці пісьменніка падзяліліся Герой Савецкага Саюза Р. Мачульскі, доктар гістарычных навук, прафесар А. Залескі, народны пісьменнік рэспублікі І. Шамякін. Выступілі таксама А. Вялюгін, М. Бацвіннік, В. Адамчык.

І. Чыгрынаў расказаў аб працы над раманам, падзяліўся сваімі творчымі планамі.

## ВЯЛІКІ ПРЫЗ — БЕЛАРУСКАМУ СПЕВАКУ

Віктару Вуячычу, вядомаму беларускаму спеваку, які прадстаўляў Савецкі Саюз на міжнародным конкурсе эстраднай песні ў Токіо, журы прысудзіла Вялікі спецыяльны прыз фестывалю.

Вуячыч — адзін з самых папулярных спевакоў савецкай эстрады. Слухачам імпануе яго рэпертуар лірычных песень, вакальных твораў, напоўненых грамадзянскім пафасам.

Вуячыч часта выступае перад аматарамі савецкай песні ў зарубежных краінах — пабываў ужо ў многіх краінах Еўропы, Азіі, Афрыкі. Ён — лаўрэат прэміі міжнароднага конкурсу эстраднай песні «Залаты арфей».

На конкурсе ў Токіо Вуячыч выканаў песню беларускага кампазітара Ігара Лучанка «Спадчына», напісаную на словы Янкі Купалы. Спевака з гэтым кампазітарам звязвае даўняя дружба. Песні Лучанка дапамаглі яму выйсці пераможцам на савецкіх і зарубежных конкурсах эстрады.

## «ВОБРАЗ У. І. ЛЕНІНА Ў ВЫЯЎЛЕНЧЫМ МАСТАЦТВЕ»

На такую тэму адбылася лекцыя ў Голацкай сельскай бібліятэцы Пухавіцкага раёна. Лектар — супрацоўнік Дзяржаўнага мастацкага музея БССР З. Казлова расказала слухачам аб творах савецкіх мастакоў М. Андрэева, І. Бродскага, М. Жукава, беларускіх майстроў А. Бембеля, К. Касмачова і іншых, у якіх шматгранна і ярка адлюстраваны вобраз вялікага правадыра.

**А. ПІКУЛІК.**

**Сярод святочных дзён, на якія багатая першая дэкада мая, — Дзень друку і Дзень радыё. З вялікай пашанай адносіцца савецкі народ да сваіх журналістаў, і таму святы гэтыя шырока і ўрачыста адзначаюцца.**

**Няма работніка літаратуры, мастацтва, культуры, які б у паўсядзённай практыцы самым цесным чынам не быў звязаны з газетай, радыё, тэлебачаннем. Таму ўсіх нас цікавіць як сённяшні дзень, так і будучае савецкай журналістыкі.**

**Вось чаму слова з нагоды гэтых святаў рэдакцыя папрасіла сказаць Б. Стральцова — выхавацеля работнікаў друку, журналіста і літаратара.**

Б. СТРАЛЬЦОЎ

# ПЕРАД ВЯЛІКАЙ ДАРОГАЙ

УСЁ ПРОСТА і разам з тым урачыста. Ад сцяны да сцяны, праз усю аўдыторыю — доўгі паліраваны стол, за якім сядзяць члены камісіі. Па адным заходзяць студэнты-выпускнікі...

Цяжка сказаць, хто больш хвалюецца: вось гэтыя маладыя людзі, што садзяцца перад сталом камісіі з затоеным напружаннем, якое кожны раз праяўляецца па-рознаму, у залежнасці ад характару чалавека, ці прыцярушаныя снегам сівізны члены камісіі, якім даручана паставіць апошнія кропкі ў студэнцкіх біяграфіях. Відаць, аднолькава. Можа толькі ў апошніх хваляванне памнажаецца на больш яснае ўсведамленне адказнасці за лёс кожнага выпускніка, за агульную справу, якую ім рабіць і вырашаць.

Я гляджу на студэнтаў і стараюся аднавіць у памяці першы дзень сустрэчы з іхнім пачатковым курсам, першую прачытаную ім лекцыю па тэорыі і практыцы савецкай журналістыкі. Дзе хто сядзеў і як кожны з іх сябе паводзіў? Усё прыпомніць немагчыма. Але здаецца мне—і гэта ўражанне ўсё больш і больш акрэсліваецца, быццам то быў нейкі другі курс, нейкія другія маладыя людзі сядзелі тады ў аўдыторыі. Не па знешнім аблічч другія, а па сваёй унутранай сутнасці, па поглядах на жыццё, будучую прафесію і саміх сябе. Яны тады амаль усе без выключэння лічылі сябе завершанымі журналістамі, перад якімі вось-вось адчыняцца дзверы ў прыемнае жыццё, запоўненае падарожжамі на паветраных лайнерах, сустрэчамі ў міністэрскіх і дыпламацкіх кабінетах, нетаропкімі гутаркамі скептычных эрудытаў за рэстараннымі столікамі—якраз у гэткім плане, у якім падаецца прафесія журналіста некаторымі пісьменнікамі і кінарэжысёрамі. Гады вучобы, практыкі ў раённых, абласных, рэспубліканскіх газетах развеялі гэты ружовы міраж. Пасталелі хлопцы і дзяўчаты, хто больш, а хто, па праўдзе кажучы, і менш, але зразумелі, якую нялёгкую ношку яны кладуць на свае плечы, як гэта цяжка і адказна быць сапраўдным журналістам, зразумелі, што не аднымі ружамі і часцей за ўсё не ружамі ўслана дарога газетчыка.

**Я гляджу на студэнтаў, і ўспамінаю, як пяць, дзесяць, пятнаццаць гадоў назад вось гэтак жа падыходзілі да стала размеркавальнай камісіі выпускнікі больш блізкіх да майго ўзросту пакаленняў. Сёння яны нясуць, гаворачы словамі паэта, «галоўную службу» ў беларускай і не толькі беларускай журналістыцы. Сёння яны—карэспандэнты газет, якія чытаюцца мільёнамі, і супрацоўнікі сціплых раёнак і шматтыражак. Сёння яны — аўтарытэтныя дзяржаўныя дзеячы, відныя літаратары, салідныя кіраўнікі рэдакцыйных калектываў і тыя безымянныя, самаахвярныя рэпарцёры, пра далёкія і цяжкія дарогі якіх дзеля некалькіх радкоў у газеце і ў песні пяецца. Мы, выкладчыкі факультэта, гэтым ганарымся. Недарэмнымі, значыць, былі гады, праведзеныя будучымі журналістамі ва універсітэце. Не марна, значыць, чыталіся лекцыі, запрашаліся для гутарак з імі старэйшыя таварышы па будучай прафесіі, наогул цікавыя людзі.**

Вось так год за годам — адных факультэт праводзіць у самастойнае працоўнае жыццё, другіх сустракае. Прыходзіць моладзь прама са школьнай парты, прыходзяць юнакі, якія адслужылі ў арміі ці адпрацавалі пэўны час на вытворчасці. Ёсць сярод студэнтаў і такія, што ўжо маюць другую спецыяльнасць. Іх паклікала да сябе журналістыка, адна з самых старажытных прафесій на зямлі.

Старажытная і адначасова, калі весці адлік часу ад «Маніфеста Камуністычнай партыі» Карла Маркса і Фрыдрыха Энгельса праз полымя Вялікага Кастрычніка да нашых дзён, прафесія якасна новая. Маркс і Энгельс сфармулявалі законы пераўтварэння свету. Вялікую ролю ў гэтым рэвалюцыйным пераўтварэнні яны адводзілі друку, які лічылі важнейшым сродкам прапаганды ідэй і выхавання мас, незаменным інструментам ва ўмацаванні інтэрнацыянальных сувязей паміж атрадамі пралетарскай арміі. Неацэнны ўклад у развіццё тэорыі і практыкі пралетарскай журналістыкі зрабіў У. І. Ленін. Закладваючы асновы партыйнага друку, ён стварыў той фундамент прынцыпаў партыйнай журналістыкі, на якім і сёння стаіць будынак усёй савецкай прэсы. К. Маркс, Ф. Энгельс, У. І. Ленін самі былі прафесійнымі журналістамі, геніяльнымі публіцыстамі свайго часу. Яны выхавалі і з'ядналі цэлую армію партыйных журналістаў. Паняцце «публіцысты ленінскай школы» сёння з'яўляецца для нас сінонімам рэвалюцыйнай страснасці, партыйнай адданасці і самаахвярнасці, прыкладам беззапаветнага служэння свайму народу, узорам высокага прафесійнага майстэрства. Яны з годнасцю пранеслі высокае званне партыйнага публіцыста, журналіста праз турмы і катаргу, праз полымя рэвалюцыйных баёў і засталіся вернымі справе Камуністычнай партыі да канца. Яны былі палымянымі змагарамі і адначасова аўтарамі летапісу вялікага пераўтварэння свету.

Ці здолеюць жа выпускнікі факультэта журналістыкі працягваць вялікую справу публіцыстаў ленінскай школы? Ці будуць яны ў новых умовах і новых сітуацыях гэткімі ж мужнымі і адданымі, нязломнымі і прынцыповымі прапагандыстамі ідэй Камуністычнай партыі, адказнымі за ўсіх і за ўсё, што адбываецца ў нашай краіне, на ўсёй планеце—адным словам, людзьмі партыйнымі, людзьмі дзяржаўнымі? На мой погляд, здолеюць, будуць, змогуць! Факультэт раскрыў перад імі сутнасць прафесіі савецкага партыйнага журналіста. Студэнты зразумелі веліч і глыбіню ідэй, якія натхнялі на творчасць бальшавіцкіх публіцыстаў. Яны добра ўсвядомілі, чаму газетчыкі передваенных пяцігодак узнімаліся на рыштаванні Магніткі і Днепрагэса, штурмавалі Паўночны полюс, смажыліся пад гарачым сонцам пустынь, чаму журналісты былі заўсёды на пярэднім краі працоўнага фронту—іх партыйнае слова памнажала энергію мас, яно было трэба народу не менш, чым хлеб і цэмент, вугаль і жалеза. Маладое пакаленне журналістаў ведае пра перакананасць сваіх папярэднікаў і селькораў, якія разам з усім народам праводзілі калектывізацыю сельскай гаспадаркі, ламаючы векавую псіхалогію ўласніка і супраціўленне ўзброеных абрэзамі кулакоў. Добра ведае яно і пра тых, хто з блакнотам і наганам у руках ішоў у атаку на фашысцкія траншэі, пра герояў-газетчыкаў, якія не вярнуліся ў рэдакцыю.

Пераемнасць традыцый—цудоўная асаблівасць журналісцкай прафесіі. І разам з тым сучасны журналіст павінен валодаць новымі якасцямі. Наша эпоха — час вялікіх рэвалюцыйных здзяйсненняў і класавых баёў, глыбокага сацыялістычнага абнаўлення свету, выдатных дасягненняў навукі і тэхнікі. Усе яе вялікія падзеі неаддзельныя ад жыцця і барацьбы рабочага класа і яго баявога авангарду—партыі камуністаў. Савецкія журналісты —неад'емная частка гэтага авангарду. І гэта накладае на іх надзвычай высокія абавязкі, патрабуе акумуліравання самай высокай энергіі, тэарэтычных ведаў і практычнага вопыту.

**Таму ўсе мы, хто мае дачыненне да выхавання будучых журналістаў, хто сам варыцца ў рэдакцыйным катле, пакуль што не дужа задаволены тым, як выглядаюць нашы калегі на старонках некаторых кніг, на кінаэкранах. Найчасцей нам паказваецца або пышнае «салодкае» жыццё, успомненае мною ў пачатку гэтых нататак (ах, як смакуюць яго абываецелі!), або нейкі абмежаваны пралаза, які толькі раздражняе сапраўдных працаўнікоў. Ці трэба казаць, наколькі далёка і адно, і другое ўяўленне ад сапраўднасці, і як мала падобны савецкі журналіст—прынцыповы і сціплы змагар за інтарэсы партыі і народа—на гэтае крывое сваё адлюстраванне.**

Сёння наша краіна жыве і кіруецца задачамі, акрэсленымі XXIV з'ездам КПСС. А гэтыя задачы грандыёзныя і захапляючыя. Прадугледжана далейшае магутнае развіццё індустрыі як падмурка эканамічнага патэнцыялу і абараназдольнасці краіны. Выстаўлена вялікая комплексная праграма развіцця сельскай гаспадаркі, уключаючы ўсе галіны, што вызначаюць поспех гэтага развіцця —механізацыю, хімізацыю, меліярацыю і інш. Рашаючым, вядучым фактарам высокіх тэмпаў развіцця эканомікі партыя вызначыла павышэнне эфектыўнасці вытворчасці на аснове навукова-тэхнічнага прагрэсу і больш поўнага скарыстання ўсіх яго рэзерваў. Рашэнні з'езда прасякнуты клопатамі аб дабрабыце народа, павышэнні тэмпаў развіцця сацыялістычнай вытворчасці, павелічэнні яе эфектыўнасці, аб далейшым развіцці палітычнай свядомасці мас, імкненнем яшчэ больш шчыльна спалучыць гаспадарчую і ідэйна-выхаваўчую работу. Акрамя таго, XXIV з'езд КПСС зноў падкрэсліў неабходнасць развіцця крытыкі, патрабаваў больш рашуча вызваляцца ад тых, хто парушае партыйную і дзяржаўную дысцыпліну, злоўжывае службовым становішчам. І да ўсяго гэтага ёсць самы пільны клопат журналістам, як актыўным памочнікам партыі, барацьбітам за ажыццяўленне партыйнай лініі. Вялікі комплекс складаных задач патрабуе глыбокага пранікнення ў жыццё—і ў агульнадзяржаўных, і ў мясцовых маштабах. Савецкі друк павінен па-дзелавому, эканамічна і палітычна абгрунтавана, публіцыстычна востра ставіць усе пытанні, весці аналіз жыццёвых з'яў, заглядваючы наперад, беручы арыенціры на перспектывы росту, на дзень заўтрашні.

Вось у гэтых адносінах—у сэнсе асваення бурных працэсаў рэчаіснасці, набыцця глыбокіх ведаў — выпускнікам факультэта давядзецца працаваць усё жыццё. Журналіст не можа спыняцца ў сваім развіцці, бо ён — пастаянны разведчык палітычных, эканамічных, сацыяльных аспектаў нашага грамадства, чалавек, нацэлены ў будучыню. Ён працуе ў аддзеле эканомікі сельскай гаспадаркі —і павінен ведаць па тым пытанні, якое стала прадметам яго даследавання, не менш, чым аграном або заатэхнік. Займаецца эканомікай прамысловасці — і абавязаны пры неабходнасці разабрацца ў канкрэтным працэсе не горш за інжынера, тэхнолага, эканаміста. З вучоным ён павінен гаварыць на мове навукі, з рэжысёрам ці кампазітарам — на мове мастацтва. І ў той жа час, калі мець на ўвазе ўсе сумежныя галіны чалавечай дзейнасці, журналісту трэба мець дыяпазон ведаў куды больш шырокі, чым, скажам, аграному, заатэхніку, рэжысёру. Спецыялізуючыся ў вузкай галіне, сучасны журналіст павінен мець шырокі кругагляд, быць у нейкай ступені універсалам. Бо ён у сваёй паўсядзённай рабоце сутыкаецца з усёй шматграннасцю жыцця. Філасофія, гісторыя, філалогія, эканоміка прамысловасці і сельскай гаспадаркі, эстэтыка і этыка, юрыспрудэнцыя і этнаграфія — усё гэта, хоць бы ў сваіх асновах, павінна ляжаць у «запасніках» памяці журналіста і на працягу яго жыцця папаўняцца, узбагачацца.

Кажуць, што мастацкая літаратура —гэта чалавеказнаўства. Не ў меншай меры чалавеказнаўчы аспект уласцівы і публіцыстыцы. Прычым, публіцыстыка мае справу з рэальнымі асобамі. А пры абмалёўцы канкрэтных людзей, раскрыцці іх псіхалогіі і характараў нецярпімы нават самы дробны фальш. З улікам гэтага можна з поўнай падставай сцвярджаць, што сённяшні журналіст павінен быць і мастаком, здольным стварыць праўдзівы і яркі партрэт сучасніка, і глыбокім псіхолагам, і, вядома ж, сапраўдным публіцыстам, які ўмее аператыўна распараджацца рэальнымі фактамі і здабываць з гэтых фактаў сэнс.

5 мая—дзень нараджэння флагмана нашай прэсы газеты «Праўда» — стаў Днём друку, святам савецкіх журналістаў. Гэтае свята не азначана ў календары чырвоным колерам. Журналісты і ў дзень свайго свята на працоўным пасту. Газета выходзіць штодня, і ў кожным нумары газеты—пастаянны журналісцкі пошук, гарачыя рэдакцыйныя будні, а часам і бяссонныя ночы, у кожным нумары—усё тое, чым жывуць і пра што дбаюць савецкія людзі.

...Аб усім гэтым думаю, пазіраючы ўслед сваім вучням, якім заўтра — у вялікую жыццёвую дарогу.



Вольгу Корбут ведаюць усе чытачы...

Фотаэцюд Ю. ІВАНОВА.

Пісьменнік Алесь Савіцкі працуе над раманам «Верай і праўдай» — кнігай пра мужнасць нашага народа ў гады Вялікай Айчыннай вайны. Пісьменнік сам быў удзельнікам барацьбы супраць гітлераўцаў, камандаваў у партызанскім атрадзе дыверсійнай групай, потым ваяваў ў дзеючай арміі і закончыў вайну ў Берліне. У новы твор А. Савіцкага, які мы прапануем нашым чытачам, пакладзена шмат з асабістага, перажытага.



Алесь САВІЦКІ

# ВЕРАЙ І

КРУПНЯ ўглядаўся ў няроўныя абрысы бяроз, што шнурам цягнуліся паабапал брукаванкі. Углядаўся пільна, поўны цяжкага роздуму і трывогі; ён тоіў у сабе і гэты роздум, і гэтую трывогу, і хваляванне ад прадчування блізкага бою.

Вершаліны дрэў былі добра акрэслены на вечаровым небе, якое слаба ірдзела — у тым баку зайшло сонца, — а камлі патаналі ўжо ў зусім густым змроку: гэты ж змрок ахутаў і малады асіннік, што пачынаўся ад лесу і вострым клінам уразаўся ў белаватую туманную парнасць, і хату дарожнага майстра — відзён быў толькі вільчык чырвонай чарапічнай страхі.

За брукаванкаю ў балаціпцы тужліва, але дужа зладжана, крычалі драчы; недзе далёка рыкалі каровы; мякка-мякка шухцеў малады асіннік над галавою. Нечакана памроілася: ніякай вайны няма, гэта Крупня выехаў на звычайную нядзельную рыбалку, і сябры пайшлі стаўляць на ноч донкі, а ён ляжыць непадалёк ля прыгаслага вогнішча і глядзіць, як запальваюцца і гусцеюць на небе зоркі. Ён дужа любіў такія вось дзівосныя, поўныя харaства і чароўнасці часіны, калі на зямлі ўжо гаспадарыць ноч, а ў далёкай высі яшчэ поўна светлых фарбаў, і, памалу звужаючыся, атухае пад небасхілам барвовая істужка: думалася ў такія часіны заўжды лёгка, узнёсла.

Цяпер была якраз такая часіна блізкай ночы, і гэтак жа, як мноства разоў бачанае, ірдзела, атухаючы, палоска неба над шатамі бяроз, і гусцеў зорны россып. Але ў думках Крупні не было звыклай, гаючай лёгкасці: думкі прыгняталі, трывожылі, і ён не ведаў ад іх ратунку і збавення.

Шостыя суткі Крупня водзіць свой маленькі партызанскі атрад вакол горада. Спачатку іх было трыццаць чалавек. Потым памёр, не зусім разумна ахвяраваўшы сваім жыццём, Богаш. Потым пайшлі на разведку і не вярнуліся з горада Шлык і Коршун. Цяпер у атрадзе дваццаць сем, толькі дваццаць сем... А колькі застанецца пасля гэтага бою? І ці мае Крупня маральнае права кінуць свой маленькі атрад на буйны штаб, які пільна ахоўваецца? Кінуць на тыя два бранявікі, на тыя кулямёты, што тырчаць амаль з кожнай машыны ў садку дарожнага майстра? Дзе гарантыя, што ён не пакладзе ўвесь атрад пад нямецкімі кулямі? Дзе гарантыя, што яны паспяхова знішчаць той штаб? І, зрэшты, дзе больш карысці: у тым, каб знішчыць дзесятак машын, захапіць, магчыма, нейкія дакументы і, магчыма, панесці вялікія страты, ці захаваць сілы атрада для разгортвання сапраўды шырокай барацьбы ў тыле ворага?.. Набраць моцы, набраць сілы, а потым ужо ўдарыць па немцах. Але ж для гэтага патрэбна сувязь са штабам партызанскага руху, а гэтай сувязі пакуль няма... А там, пад тымі бярозамі, у штабных машынах ёсць жа напэўна перадатчыкі! А калі ніякага перадатчыка не знойдзецца? Хоць і ахвяруеш палову атрада дзеля гэтай мэты?

Крупня пакутліва думаў, меркаваў і так і сяк, не знаходзячы дакладных, абгрунтаваных адказаў на свае пытанні і ўсё больш выразна пачынаў разумець — не розумам пакуль што, не сэрцам, а нейкай інтуіцыяй, невядомым раней пачуццём, якое і здзіўляла і абнадзейвала яго, — што рашэнне граміць фашысцкі штаб не толькі правільнае, але і прынцыпова важнае. Для яго асабіста, для лёсу ўсяго атрада цалкам. Ён, Крупня, не мае больш маральнага права вадзіць свой атрад па лясах без бою. Хопіць глядзець, як паўзуць па дарогах матарызаваныя калоны, глядзець на ворага штодня і не страляць па ім, а толькі сціскаць ад ярасці кулакі! Хопіць! Ён павінен павесці людзей у бой, прыняць гэты бой, прыняць разумна, пазбегнуць страт, захапіць рацыю, захапіць зброю і потым рушыць у далёкі рэйд да сваёй базы! Сёння і ёсць якраз той момант, якога чакаў Крупня, вось тая ноч, дзеля якой блукалі яны вакол горада поўны тыдзень, выглядаючы, прымерваючыся!

Нячутна ступаючы, падышоў Лабун, сеў, уздыхнуўшы, нейкі час маўчаў, і Крупня зразумеў, чаму маўчыць яго камісар. Так, яго прыгнятае той жа клопат, тыя ж думкі трывожаць, тая ж, мабыць, развага.

Крупня з непадробленай радасцю спытаў:

— Што, камісар, ударым немца?

— Ты ведаеш, калі мы сёння не раскалашмацім гэты штаб — у душы можа штось надламіцца. Я пачынаю сам сябе зневажаць. Зброя ў руках, а я — туляюся... І вось яшчэ думаю: можа ў гэтую ноч якраз выходзяць на рубяжы нашы дывізіі і пагоняць яны, папруць гэтых нелюдзяў у іхняе воўчае логава! Хіба даруеш сабе потым, калі адседзіш менавіта гэтую ноч у зацішку...

— Здаецца, прадумалі ўсё. А мо дзе чаго і не ўлічылі?

— Ды не... Хлопцы ж нават на зямлі малявалі: дзе, што стаіць у тым садку, куды кожны павінен кінуцца. Кожнае ж вакно ў хаце размеркавана: на кожнае — граната. Тады так і зробім, як вырашылі: наляцелі, ударылі, зніклі. Я папярэдзіў яшчэ раз усіх, і начштаб папярэдзіў: аніякага шуму, аніякага крыку. Каб, як прывіды якія...

Лабун казаў гэта пошапкам, паспешліва, быццам спрабаваў пераканаць Крупню, абнадзеіць, пасяліць у ім, Крупні, упэўненасць, і, разам з тым, праверыць сябе, супакоіць. Крупні гэта надабалася: трывожыцца і Лабун, не толькі ты адзін!

Зварухнулася галіна асінкі, што была крокі за тры ад іх, і з-за дрэўца, як здань, выплыла чалавечая постаць: нават крокаў не чуваць было.

— Хто? — спытаў Крупня. — Шынайка, ты?

— Не, гэта я, Пажога, таварыш камандзір. Шынайка застаўся, вядзе назіранне.

— Якая там абстаноўка? Без змен?

— Змены ёсць.

— А што? Што? — Лабун устрывожана апярэдзіў пытанне Крупні.

— Вартавыя паснулі. Хадзілі, хадзілі ля хаты, потым прыселі пад бэзам — лавачка там стаіць. Гергекалі, гергекалі... Курылі. Адзін толькі курыў, другі, здаецца, не курыць. А цяпер, гады, спяць. Абодвы. Як у сваёй хаце, адным словам. Я блізенька падпоўз, дык ажно чуваць, як пахропваюць...

І Крупня аддаў загад пачынаць аперацыю. Група, якую ён узначальваў сам, павінна была забяспечыць прыкрыццё з боку брукаванкі, зняць без стрэлу вартавых, потым знішчыць бранявік ля ганка і ўварвацца ў хату. Група Лабуна заходзіла ад садка, і ёй трэба было таксама знішчыць другі бранявік, і знішчыць машыны, і захапіць, не пашкодзіўшы пры тым, машыну сувязі.

Крупня націснуў Лабуну руку, папрасіў ціха і сардэчна, а потым пасяброўску крануў за плячо:

— Ты толькі асцярожна, на злом галавы не кідайся пад кулі. Залішне не рызыкуй... Яшчэ раз папярэдзь усіх сваіх: мая ракета — усім маланкава наперад. Ну, жадаю табе...

Крупня ішоў, трымаючы напагатове аўтамат. Побач крочыў Тарлер, потым неяк незаўважна адстаў, і толькі ў канцы асінніку, калі пачалі наперадзе добра акрэслівацца бярозавыя прысады, Крупня ўбачыў справа, за постаццю Голуба, як бліснулі шкельцы акуляраў, і падумаў пра тое, што варта было адправіць Тарлера назад, каб ён са сваім благім зрокам чаго не наблытаў. Але рабіць гэта было позна ўжо: да брукаванкі заставалася крокаў дзесяць.

Пад даланёю сагрэлася драўляная цэўка прыклада, і толькі метал курка, крыху вільготны ад расы, халадзіў палец, і гэты халадок расцякаўся па ўсёй руцэ: ён, гэты халадок, быў як нейкая мяжа паміж тым роздумам, што прыгнятаў Крупню ў асінніку, і той невядомасцю, якая тоілася ў ночы і падпільноўвала іх. Цяпер, калі было прынята рашэнне ісці наперад той невядомасці, наперад той нечаканасці, што тоілася ў начным змроку, калі ніхто ўжо не мог перарабіць, перайначыць рашэння, усё — і жыццё Крупні, і жыццё Лабуна, і жыццё кожнага партызана атрада, і тое будучае, дзеля якога гэты атрад быў створаны, і лёс тых людзей, што звязаны з лёсам кожнага ў атрадзе, — літаральна ўсё гэта, і шмат чаго яшчэ, што было ў кожным сэрцы, у думках, у марах, залежала цяпер ад кемлівасці, асцярожнасці, лоўкасці, вытрымкі. Смерць побач! Смерць... Яна ёсць, яна існуе, але пакуль што маўкліва чакае, загнаная розумам людзей у рабрысты чыгун гранаты, у медзяныя гільзы патронаў, маўкліва чакае імгнення, каб гэты ж розум, які спарадзіў яе, даў ёй прастору, выпусціў на волю, паказаў тое, што яна знішчыць, не беручы пад увагу ні маладосці, ні высакародства, ні прыгажосці, ні самога розуму. Але яна, гэта смерць, што маўкліва стоілася, схавалася ў рабрысты чыгун гранат, у медзяныя гільзы патронаў, у адточаныя і вострыя грані штыхоў — яна, гэтая смерць, можа і ўратаваць гэты розум, супраць якога і накіравана, яна можа ўратаваць розум, уратаваць жыццё, бо тое, супраць чаго яна зараз будзе накіравана, з'явілася тут, на гэтай зямлі, дзеля таго, каб забіваць, гвалтаваць, нішчыць жыццё, якое ёсць, нішчыць жыццё, якое можа быць заўтра, праз год, праз дзесяць год, праз стагоддзі. І таму трэба скіраваць смерць супраць смерці, забіць яе, смерць, забіць у імя жыцця, у імя справядлівасці, у імя выратавання таго святога, у што верыць чалавек, чым жыве, чым можа жыць, чым будзе жыць. І таму трэба забіваць тых нелюдзяў, што зараз спяць у хаце дарожнага майстра, ніколькі не турбуючыся пра тое, дзе і што робіць гаспадар гэтай хаты, дзе пакутуе яго жонка, яго дзеці. І таму трэба абудзіць смерць і забіваць чужынцаў...

Крупня ведаў, што будзе забіваць, будзе забіваць бязлітасна, забіваць без згрызоты, забіваць з чыстым сумленнем, і ўсё ж адчуваў непрыемнае трымценне ў плячах, адчуваў, як грукоча ў грудзях сэрца, адчуваў непазбежнасць таго, што павінен быў зрабіць, і гэтая непазбежнасць вяла яго наперад, спараджала абвостраную рэакцыю на кожны шоргат, на кожны нават зусім слабы гук, на кожны новы пах, на кожнае новае адценне змроку, якое хутка змянялася над шатамі бяроз.

Крупня моўчкі паказаў рукою, каб Мацко паставіў кулямёт не на брукаванцы, а за ўзбочынаю, ля камля старой бярозы, адкуль было б зручна страляць у любым напрамку. І ў той жа момант, калі ён паварочваўся ад брукаванкі да хаты, злева, побач зусім пыхнуў трапяткі ўсплеск агню і рэзка гакнуў стрэл.

Патрэба ў сігналу ракетай адпадала сама па сабе, у ім не было сэнсу, бо нечаканы стрэл закрэсліваў усе ранейшыя планы, усё паварочваў інакш, зусім не так, як гэтага хацелася Крупні, як гэта яны распланавалі на адвячорку, але ён не мог ужо спыніцца, ускінуў руку з ракетніцай над галавою і стрэліў. Адразу ж кінуўся да хаты дарожнага майстра.

Ён бег, выдзіраючы з гранаты шурпатае колца чакі, і яшчэ не мог дакладна вызначыць, ці немцы гэта мільгацяць між яблынь і сліў у садку, ці ірванулася на штурм група Лабуна.

Ля ганка Крупня параўнаўся з Пажогай. Ракета ўжо распусцілася ў начной высі дзівосна-загадкавай кветкаю. У яе мігатлівым бледна-зялёным святле твар Пажогі быў у чорных мокрых пісягах, барвовых па краях, і Крупня зразумеў, што гэта кроў, але не здзівіўся, не папытаў, ці паранены ён, а вылаяўся злосна і брыдка:

...душу... бога!.. Хто страляў? Без загаду?

— Немец! Немец гэта... Дваіх вартавых мы разанулі, а гэты, зараза, пад бэзам на плашчпалатцы спаў. Шынайку ён ва ўпор, з карабіна. Але і я яго, гада, фінкаю...

— Кідай у тое акно! У тое! Гэта — маё!

Крупня шпульнуў гранату ў акно адначасова з Пажогай і бразнуўся на зямлю ля падмурка. Да ганка нейкімі дзіўнымі скокамі-зігзагамі імчаў Тарлер. Пінжак на ім развяваўся, як крылы, і сам ён увесь быў падобны на курку-квактуху, якая не ратуецца ад небяспекі ці нейкага спалоху, а храбра кідаецца на свайго крыўдзіцеля. Крупня смаргануў яго за крысо пінжака і паваліў на зямлю:

— Куды? Кладзіся!..

Глуха грымнулі два выбухі, і следам за імі яшчэ два — з таго боку хаты таксама кінулі ў вокны гранаты. Траскотна застукалі аўтаматы ў садку, запалалі, ахопленыя агнём, машыны.

Крупня ўскочыў:

— Пажога! За мною! У хату!

Ён штурхануў ботам дзверы і, стоячы на парозе, абмёў аўтаматнай чаргою сенцы. У сенцах было поўна дыму. Адны дзверы ляжалі на падлозе, другія, што вялі направа, скасабочыліся, віселі на адной толькі завесцы. У левым пакоі, куды Крупня ўскочыў, віўся дымны чад згарэлага толу, смярдзела, як смярдзіць на старой прыбіральні, якую пачалі чысціць і разварушылі; падсвечаная полымем машын, што гарэлі ў садку, дзіўным страшэнным вокам бліскала на сцяне люстэрка, а на падлозе курчыліся, стогнучы, белыя постаці, і Крупня ўвагнаў у іх адну за другой чатыры доўгія чаргі... У кутку на стале Крупня заўважыў два партфелі: адзін закрыты, з бліскучымі ад водбліскаў агню замочкамі, а другі адкрыты, які ляжаў ускрай, пляскаты, як блінец. Крупня згроб у партфель планшэткі, цяжкія парабелумы, нейкія паперы і незнаёмыя рэчы са стала, схапіў партфель з бліскучымі замочкамі і мітнуўся на ганак — яшчэ б крыху і ён бы задыхнуўся ад гэтага смярдзючага паветра, густа натоўчанага парахавым дымам, згарэлым толам, пахам крыві і смерці.

Крупня выскачыў на ганак і адхіснуўся, баронячыся ад агнявых стужак трасіруючых куль, якія, здавалася, упіраліся яму ў самыя грудзі. Не выпускаючы партфеляў з рук, ён скаціўся на нізкую прыступку, з яе на зямлю, і, скочваючыся, трахнуўся каленкаю аб шырокі рабрысты камень. Цяпер ён бачыў, што агнявыя трасеры хуткастрэльнага нямецкага кулямёта і аўтаматныя чэргі грымяць з густога вішняку правей пагрэбка, ля якога палаў падарваны гранатамі бранявік.

З акна хаты, як мяшок, выкуліўся Пажога, плёхнуўся на зямлю побач з Крупняй, сыпануў скарагаворкаю:

— Прамаргалі, прамаргалі заразу, прамаргалі... Якую ляпу далі! Гэта ж там у іх асноўны вузел аховы!.. Эх, маржовы я...

— Гранаты і туды! Ёсць гранаты? Да сценкі такіх разведчыкаў ставіць!..

— Нямецкія. У хаце ўхапіў. Ну, камандзір, я вінаваты, я і выпраўлю. Даруй!

Пажога хутка, як вужака, папоўз па зямлі. Крупня, ад болю прыкусіўшы губу, пачаў расціраць каленку. Штаніна была мокрая ад крыві, і ён здрыгануўся, але здрыгануўся не ад таго, што ўбачыў на руках кроў, не ад болю, а здрыгануўся і сцяўся ад думкі, нечаканай, балючай, якая сціснула сэрца, спарадзіла глухі стогн душы. Мёртвага аблаяў! Шынайку забіў ва ўпор вартавы немец. А ты яго, нежывога, аблаяў! І Пажогу аблаяў! І пагнаў яго на кулямёт. А сам ляжыш! Ляжыш і вінаватага шукаеш! А вінаваты сам!.. Разведка не заўважыла? Дык што! Ты павінен быў прадбачыць! Ты камандзір! За ўсё на табе адказнасць першая і галоўная!.. Ты вінаваты! Дык і выпраўляй! Сам выпраўляй!..

Крупня ўскочыў з зямлі, пакульгаў, перасільваючы боль, дагнаў Пажогу, які прапоўз метраў дзесяць, бразнуўся побач на зямлю, загадаў адрывіста:

— Гранату!

Ён выхапіў з рук Пажогі гранату на доўгай драўлянай ручцы. У той жа міг злева, з-за вугла хаты, раскаціста

## Аляксей ПЫСІН



●

*...А хтосьці з той стралковай роты*
*Падняўся першы. І загінуў.*
*І стаў пяском, травою, глінай.*
*Ты быў другі. А можа соты.*

*А можа тысячны, мільённы.*
*Галоўнае — ты быў не воддаль.*
*Заслужаны ты маеш ордэн.*
*Мы ворага перамалолі.*

*Цяпер ссівелы, пастарэлы,*
*Усё часцей, часцей міжволі*
*Сябе ўяўляеш на тым полі:*
*Ты самы мужны, самы смелы.*

*І ўжо не соты, не мільённы,*
*А першы, першы ў той атацы.*
*Паверце... Дакараць не станьце...*
*Галоўнае — перамалолі.*

●

*Вецер па-свойску сустрэчны,*
*І жураўлі над ракой —*
*З боку таго, дзе сардэчны*
*Друг, аднагодак мой.*

*Бачу скроні сівыя,*
*Усё ж ён ранейшы ва ўсім:*
*— Дзеці ў мяне малыя,*
*Трэба мне быць маладым.*

*Быццам не белены лёсам,*
*Быццам не зведаў страт,*
*Брат гэтым белым бярозам,*
*Добраму, юнаму брат.*

*Рана ў дні веснавыя*
*У поле — з сонцам самім:*
*— Дзеці ў мяне малыя,*
*Трэба мне быць маладым.*

*Дыхае свежай зямлёю,*
*Чуў ён, што зычылі ёй*
*Белыя сцюжы зімою,*
*Белыя птушкі вясной.*

*Турыць хваробы злыя,*
*Лечыцца ўздыхам адным:*
*— Дзеці ў мяне малыя,*
*Трэба мне быць маладым.*

●

*— Па-лабавому зноў, дзівіцеся!—*
*Што адкажу на гэта я?*
*Была мне школаю мая*
*Гвардзейская дывізія.*

*Паспелі —*
*Шлях быў не малы —*
*І падрасці і вырасці.*
*І мы не ведалі няшчырасці,*
*Халуйства, зайздрасці, маны.*

*Дайно час выставіў адзнаку*
*Сумленню мёртвых і жывых.*
*Я помню, помню радавых,*
*Што ў поўны рост ішлі ў атаку.*

*І, можа, болей, чым хто іншы,*
*Я лёсам абавязан ім,*
*І болем вернасці*
*І тым,*
*Што не нясу благому*
*Чынша.*

*О, слова, слова лабавое,*
*Нястрымнае, яно ляціць,*
*Пасля душа мая баліць:*
*Сказаў не так,*
*Сказаў не тое...*

●

*І мне памяняць бы кватэру,*
*Туды б,*
*дзе цішэй і ніжэй,*
*Бо грукату зведаў праз меру,*
*Няўтульных і дзён і начэй.*

*Заўсёды гатовы ў дарогу*
*І ногі і спіны сталой.*
*І буду выносіць патроху*
*Сто важкіх шаноўных тамоў.*

*І нават фарфоравы коцік,*
*Якога цярпець не магу,*
*Свой банцік ружовы падхопіць*
*І стане за кімсьці ў чаргу.*

*Агледжу вузлы, чамаданы...*
*Чакайце, грузавікі, —*
*А песні, што тут праспяваны*
*На «горкім» вяселлі дачкі?*

*А цені сяброў, што ніколі*
*Не ступяць на іншы парог?*
*У гэтым абжытым пакоі*
*Я ўсё дарагое бярог.*

*Не сплю і сузор'і чытаю.*
*А можа па іх варажу?*
*А можа кагосьці чакаю?*
*Ніякіх выгод не прашу.*

### КАХАНЫ РОЎ

*Есць гарадок паміж барой,*
*А ў ім нябачны з берагоў*
*І кручаў Сожа, быццам схоў, —*
*Каханы Роў.*

*З былых часоў, з былых вякоў*
*Таіў і шанаваў любоў,*
*На шлюбны ложак юных вёў*
*Каханы Роў.*

*Святло чаромхавых кастроў*
*Сышло з падземных вапнякоў.*
*І вабіць зноў і кліча зноў*
*Каханы Роў.*

*Спытайце нават салаўёў,*
*Спытайце нават матылёў,*
*Што трэба ім? Адказ без слоў:*
*— Каханы Роў.*

*Не прыглядайся да зямлі,*
*Да тых слядоў, што тут ляглі, —*
*Пакуты й смерць таксама йшлі*
*У Каханы Роў.*

*Святло чаромхавых кастроў*
*Сышло з падземных вапнякоў.*
*І вабіць зноў і кліча зноў*
*Каханы Роў.*

## СУРОВАЯ ПАМЯЦЬ

НАПІСАНЫЯ па яшчэ гарачых слядах пажараў, вынашаныя і адшліфаваныя самім жыццём, першыя вершы М. Смагаровіча адразу ж прыцягнулі ўвагу яснасцю думкі, стрыманасцю пачуцця, у нейкай ступені суровай паэтычнасцю. Лірычны герой—таварыш паэта па партызанскім атрадзе, брат, якому «лёс у грозны час... узваліў на плечы шар зямны», даверліва дзяліўся сваімі думкамі, перажываннямі.

Зборнікі вершаў «Мой таварыш», «Каля кастра», «Крокі» і іншыя былі прыхільна сустрэты чытачом. І вось новае спатканне—ладны томік, змест якога склалі вершы, што пісаліся ў апошнія гады.

У большасці іх — суровая памяць вайны. Лёс лірычнага героя і лёс аўтара непарыўна звязаны паміж сабой:

**Тады**
**Нылі крывавыя раны.**
**Губы шапталі:—Вады,**
**Чуліся мыліцаў стукі,**
**Гучна, кібы гром званоў.**
**Голас бубухкаў:—Бязрукі**
**З ложка зваліўся ізноў.**

Гэта суровая праўда, і М. Смагаровіч не баіцца сказаць яе адкрыта. Чалавек мужны ў жыцці, ён гэткім жа застаецца і ў сваіх творах.

Дзень сённяшні і ўчарашні, пражытае і перажытае, трывогі кожнага часу—усё гэта знаходзіць адлюстраванне і ў вершах паэта. Вострa публіцыстычныя радкі, якія адрасуе ён амерыканскаму салдату («Пісьмо Джону»):

**За табой клубы ўзвіліся дыму:**
**Выйшаў ты з в'етнамскай вёскі, Джон,**
**І брыдзеш, закураны, нябрыты,**
**І сама зямля цябе кляне...**
**Азірніся, чуеш, Джон! Куды ты?**
**За цябе балюча стала мне...**

Тэма вайны і міру—галоўная ў творчасці М. Смагаровіча. Раскрываецца яна звычайна праз успаміны, праз перажытае, убачанае, вынесенае на сваіх плячах («Размова з доктарам», «І ўстаў салдат...», «Мае сны»).

Піша паэт і пра сённяшняе жыццё. Уменне завастрыць увагу на звычайнай з'яве, сказаць пра яе хораша, светла—гэта не можа не выклікаць адпаведны рэзананс у чытача:

**Панесла рэчка прэч ад нас**
**Зіму, парваўшы на кавалкі.**
**І вось на лузе фарбы ўраз**
**Успыхнулі, кібы запалкі.**
**Пот з твару трактарыст абцёр,**
**Акінуў позіркам абшары**
**І загадаў: — Спявай, матор,**
**Аб тым, што ўжо вясна ў разгары!...**

Змешчаны ў зборніку і тры невялікія паэмы. Найбольшую цікавасць выклікае — «Крутыя перавалы». Твор гэты ў многім аўтабіяграфічны. Асабліва ўдаліся паэту наступныя радкі:

**Крочылі ў гэтыя хвілі**
**Міма на працу дзядзькі,**
**Мне на крысо апусцілі**
**Жоўтыя тры медзякі.**
**Лязгнуў, кібы аплявуха,**
**Звон нечаканы манет.**

Яны б'юць у самае сэрца і вельмі ўражваюць сілай свайго ўздзеяння. Але не такі характар у былога франтавіка, каб скарыцца лёсу. Ён верыць у жыццё і па-ранейшаму застаецца ў страі.

Ёсць у кніжцы і тое, што мяне, як чытача, не можа задаволіць. Гэта сэнсавыя недакладнасці, якія сустракаюцца месцамі, аднастайнасць рытмічнага малюнка некаторых вершаў. Верш «Кісет» пераклікаецца з «Пасылкай» П. Глебкі. Далёка не новыя думкі ў вершах «Ручаёк», «Золата», «Камета».

У адным з вершаў аўтар прызнаецца сабе:

**Пішу, а здаецца мне—мала.**
**Сябе суцяшаю ў жыцці,**
**Што можа ўвесь час запявала**
**Не ў першай шарэнзе ісці.**

Паэтычная муза М. Смагаровіча сапраўды сціплая. Але яго вершы пакідаюць у душы глыбокі след сваёй непасрэднасцю.

**М. ПРЫГОДЗІЧ,**
студэнт БДУ імя У. І. Леніна.

---

М. Смагаровіч. «Разводдзе». Лірыка. Мінск. «Мастацкая літаратура». 1973.

## М. ЛЫНЬКОЎ І РАБСЕЛЬКОРЫ

ІШОЎ тысяча дзевяцьсот дваццаць пяты год. Краіна распачала новае жыццё. Вялікія змены адбыліся і ў маёй роднай вёсцы Забалоцце, якая прытулілася сярод балот і лясоў. Мы, тады яшчэ маладыя хлопцы, вырашылі аб зменах гэтых расказаць у Бабруйскай акруговай газеце «Камуніст». Вельмі хваляваліся, калі паслалі свой першы допіс. Здавалася, што напісалі не так, як трэба, і, вядома, нас не надрукуюць. Але, калі праз колькі дзён разгарнулі свежы нумар, прыемна здзівіліся: пад невялічкай нататачкай стаялі нашы прозвішчы. Пісалі мы тады калектыўна — я і мае сябры.

З таго дня і да самага адыходу ў Чырвоную Армію ў 1929 годзе я рэгулярна пісаў у акруговую газету. Амаль усе мае допісы былі змешчаны на старонках «Камуніста». Вялікую дапамогу нам, маладым, нявопытным селькорам, аказваў Міхась Ціханавіч Лынькоў. Ён быў некаторы час адказным сакратаром «Камуніста», а ў хуткім часе стаў рэдактарам.

Просты і сціплы па натуры — М. Лынькоў быў нашым першым літаратурным настаўнікам. Ён вельмі ўважліва ставіўся да селькораўскіх допісаў і па магчымасці сам адказваў нам. Я асабіста атрымаў звыш дваццаці пісьмаў. У іх давалася ацэнка карэспандэнцыям, рабіўся крытычны разгляд некаторых допісаў.

Рэдакцыя «Камуніста» знаходзілася тады ў невялічкім цагляным будынку на адной з цэнтральных вуліц Бабруйска. Бываючы ў горадзе, мы ахвотна заходзілі сюды, бо ведалі, што супрацоўнікі заўсёды сустрэнуць, як жаданых гасцей. Часта даводзілася гутарыць і з самім Міхасём Ціханавічам. У рэдакцыі была добрая завядзёнка: амаль кожнаму селькору ўручалася невялічкая бібліятэчка кніжак. За камплектаваннем яе сачыў сам М. Лынькоў.

Аднойчы Міхась Ціханавіч наведаўся ў раённы цэнтр Глуск, каб правесці сход селькораў і актыўных чытачоў газеты. Помню, сабраліся мы ў будынку райкома партыі. М. Лынькоў расказаў нам аб унутраным і міжнародным становішчы, пазнаёміў з асноўнымі задачамі рабселькораўскага руху. У заключэнне ён сказаў: «Селькор заўсёды павінен быць пунктуальна праўдзівым. Пішыце толькі аб тым, што самі добра ведаеце. Усе факты дэталёва правярайце, змагайцеся за дзейснасць сваіх выступленняў у газеце».

Газета, якую рэдагаваў М. Лынькоў, карысталася вялікай папулярнасцю сярод чытачоў. Яна была багатай і цікавай па зместу, часта на яе старонках змяшчаліся селькораўскія допісы. Перыядычна выходзіў і літаратурны дадатак «Вясна», які адкрыў дарогу ў вялікую літаратуру многім сёння вядомым беларускім пісьменнікам.

Міхась Ціханавіч дапамог выйсці на дарогу жыцця і нам, вясковым юнакам, якія былі на пачатку селькорамі «Камуніста». Я — загадваў хатай-чытальняй, потым працаваў сакратаром сельсавета, служыў у арміі. І ў тым, што потым стаў рэдактарам дывізіённай, а затым і раённай газет, бачу, адчуваю вялікую заслугу і Міхася Ціханавіча Лынькова.

**А. ГАНЧАРОЎ,**
пенсіянер.

# ЛІТАРАТУРА І ДЗЕЦІ

### З ПАШЫРАНАГА ПАСЯДЖЭННЯ ПРЭЗІДЫУМА ПРАЎЛЕННЯ СП БССР

Плённая, творчая размова адбылася на пашыраным пасяджэнні прэзідыума праўлення Саюза пісьменнікаў БССР сумесна з секцыяй дзіцячай літаратуры. Пісьменнікі, настаўнікі, бібліятэкары, работнікі выдавецтваў рэспублікі абмяркоўвалі важнейшыя праблемы развіцця літаратуры для дзяцей і юнацтва.

З дакладам «Выхаванне грамадзяніна» выступіла кандыдат філалагічных навук Э. Гурэвіч.

— Мастацкая літаратура, і ў прыватнасці дзіцячая, заклікана выхоўваць актыўнага будаўніка камуністычнага грамадства, — сказала яна. — Лепшыя кнігі для дзяцей сталі мудрымі настаўнікамі юных гледачоў і выхоўваюць высокія маральныя якасці чалавека—любоў да Радзімы, павагу да працы, пачуцці інтэрнацыянальнай дружбы паміж народамі, мужнасць, высакародства, сумленнасць, шчырасць.

Далей дакладчык спыняецца на праблеме станоўчага героя, аналізуе аповесці «Пачакай, затрымайся» А. Васілевіч, «Першы генерал» І. Шамякіна, «Мы з Санькам у тыле ворага» І. Сяркова, «Кастусь Каліноўскі» А. Якімовіча і рад іншых твораў. Гэтыя кнігі вызначаюцца праўдзівым адлюстраваннем жыцця, вастрынёй канфліктт, запамінальнымі вобразамі герояў.

Але названыя аповесці—пра мінулае. Задача ж у тым, каб пісьменнікі больш рашуча асвойвалі тэмы сучаснасці, паказвалі працоўны подзвіг савецкага народа. Такія творы ў нас ёсць, хаця іх яшчэ і не багата.

Не абмежаваныя магчымасці мастацкай публіцыстыкі для дзяцей. Выйшаў у свет зборнік нарысаў «Рубяжы і крылы», які расказвае пра новабудоўлі дзевятай пяцігодкі.

Добры нарыс напісаў А. Чаркасаў—«Мой магутны зямляк», які апавядае пра трактарны завод.

І дзіцячая паэзія ўносіць дастойны ўклад у справу выхавання падрастаючага пакалення. Вершы Э. Агняцвет, А. Вольскага, Р. Барадуліна, В. Зуёнка, М. Калачынскага, А. Пысіна, С. Шушкевіча і іншых паэтаў лепшае таму сведчанне. Разам з тым, наша паэзія, асабліва для дзяцей сярэдняга і старэйшага ўзросту, не пазбаўлена яшчэ дэкларацыйнасці, дыдактыкі і рыторыкі.

Асобай увагі заслугоўвае літаратура для маленькіх. Паспяхова працуюць на гэтай ніве пісьменнікі В. Вітка, Ул. Дубоўка, С. Шушкевіч. Кніга «Чытанка-маляванка» Васіля Віткі—цудоўны падарунак дзецям. Добрыя апавяданні для маленькіх пішуць В. Гарбук, В. Хомчанка, Ул. Юрэвіч.

Дакладчык звяртае ўвагу і на тое, што слаба развіваюцца ў апошні час у беларускай літаратуры для дзяцей і юнацтва буйныя формы паэзіі—паэма, у прозе адсутнічае раман. Гаворка тут ідзе не пра вузка жанравую праблему, а пра неабходнасць пашырыць жыццёвую сферу ў творах для юнацтва.

—Рашэнні XXIV з'езда КПСС, — сказала ў заключэнне Э. Гурэвіч, — звяртаюць увагу пісьменнікаў на неабходнасць узмацніць выхаваўчае ўздзеянне літаратуры для дзяцей, павысіць яе ідэйна-мастацкі ўзровень. Гэта—баявая задача ўсіх беларускіх літаратараў, чые творы адрасуюцца юнаму гледачу.

У спрэчках па дакладу выступіла 10 чалавек. Алесь Якімовіч падзяліўся ўражаннямі аб міжнароднай сустрэчы ў Маскве «Пісьменнікі свету і выхаванне падрастаючага пакалення».

— Тым, хто займаецца педагагічнай навукай у рэспубліцы, хто выкладае літаратуру ў школе, — гаварыў Ул. Юрэвіч, — трэба сур'ёзна ўзважыць нашы падручнікі і праграмы. Менш за ўсё тут павінна быць маралізатарства і голай дыдактыкі.

Прамоўца ўзнімае пытанне і аб тым, каб творы дзіцячых пісьменнікаў выхоўвалі ў юнага пакалення павагу да працы. Тут яшчэ многа трэба зрабіць нашай літаратуры.

— Паездкі па рэспубліцы, сустрэчы ў школах пераконваюць у тым, што ў многіх бібліятэках, асабліва пачатковых школ, нашых кніг, на жаль, няма, так пачаў сваё выступленне Алесь Пальчэўскі. — Гэта тлумачыцца тым, што і тыражы выданняў дзіцячай літаратуры яшчэ невялікія, хаця яны з году ў год растуць.

Аб вялікай адказнасці пісьменніка перад чытачом гаварыла Алена Васілевіч.

Метадыст Міністэрства асветы БССР К. Краўцова заклікала пісьменнікаў больш актыўна ўдзельнічаць у стварэнні праграм і падручнікаў для школ рэспублікі. Вопыт супрацоўніцтва А. Клышкі і Р. Шкрабы дастойны шырокага пераймання. Прамоўца лічыць неабходным стварыць мастацкія біяграфіі беларускіх пісьменнікаў. Гэтыя кнігі ажывілі б выкладанне роднай літаратуры ў школе.

Крытыка М. Яфімаву хвалюе мастацкі ўзровень літаратуры для маленькіх, аспіранта Гомельскага дзяржаўнага універсітэта Р. Літвінава — грамадзянскасць у паэзіі для дзяцей і пытанні мастацкага перакладу. Пра гэта яны гаварылі ў сваіх выступленнях.

Рад важных пытанняў узняла ў прамове Эдзі Агняцвет. На думку паэтэсы, каб лепш наладзіць прапаганду дзіцячай літаратуры, займацца ёю кваліфікавана, з веданнем справы, у сталіцы рэспублікі неабходна адкрыць спецыялізаваную кнігарню.

— Усё жыццё пісьменніка, —заз начае яна, — гэта творчасць. Трэба, каб і літаратараў, што пішуць кнігі для дзяцей, не забывалі ў саюзе, пасылалі іх у камандзіроўкі на будоўлі пяцігодкі, у братнія рэспублікі.

— Рэспубліканскі друк, на жаль, не аддае яшчэ належнай увагі дзіцячай літаратуры, — гаварыў у сваім выступленні паэт Іосіф Васілеўскі. Вынікі абмеркавання падвёў Іван Шамякін.

## СЯРОД КНІГ

# У ТВОРЧАЙ ХАДЗЕ

Выданне выбраных твораў для кожнага пісьменніка заўсёды, жадае ён таго ці не жадае, з'яўляецца падвядзеннем вынікаў пэўнага этапу творчасці, аглядам ўсяго, што створана ім. Безумоўна, ведаючы гэта, аўтар адбірае лепшае. Але разам з тым трэба ўлічваць жаданне яго паказаць «крывую» свайго творчага росту, даць паўнейшую жанравую і тэматычную карціну. Таму выбранае шмат гаворыць аб пісьменніку, аб яго эстэтычнай пазіцыі.

Кніга Міколы Ваданосава «Дзе віруе Бяроза» — гэта творы, якія пісаліся ў 60—70-я гады, у гады творчай сталасці аўтара. Усе яны разлічаны на дарослага чытача. Гэта варта падкрэсліць, бо Ваданосаў многа і плённа працуе для дзяцей. Але і ў кнізе для дарослых пісьменнік ўсё ж арыентуецца на моладзь і адпаведна гэтаму шукае тэмы, герояў, маляўнічыя сродкі, будуе сюжэт. М. Ваданосаў умее зацікавіць чытача, удала спалучаючы ў сваіх творах спецыфічна беларускую тэматыку, нацыянальныя характары, каларыт з прыкметамі сучаснага стылю, які, праўда, хутчэй праяўляецца ў сюжэце, чым у мове. Аднак і ў яго кожная фраза нясе новую інфармацыю, не спатыкаючыся на апісаннях, і гэта робіць стыль напружаным, мабільным. Сюжэт заўсёды імклівы, характары раскрываюцца ў дзеянні.

У такой манеры напісана аповесць «Пад чужым паролем» (1971 г.) Яна — аб партызанскай барацьбе на Беларусі. Па сваіх калізіях гэты твор у многім прыгодніцкі. Сапраўды, ён інтрыгуе з самага пачатку, з першага раздзела, у якім прыгожая, вясёлая дзяўчына Зося, што з'явілася ў партызанскім злучэнні, аказваецца шпіёнкай. А пад яе паролем у далейшым дзейнічае партызанка Зіна. З гэтай сітуацыі завязваецца сюжэт. Праўда, такі прыём не новы ў прыгодніцкай літаратуры, але ў данным выпадку ён «іграе». Пісьменнік паставіў задачу паказаць гераізм самых звычайных, нават не без недахопаў, юнакоў і дзяўчат. Выкрыванне вельмі небяспечнага дыверсанта Шпака эфектна праводзіцца капітанам Крайко з удзелам Зіны і закаханага ў яе радыста Кастуся.

Праўда, Шпаку даволі хутка ўдаецца ўцячы, але ён вымушаны вярнуцца, каб давесці заданне да канца — канчаткова знішчыць партызанскую радыёстанцыю і радыстаў. Гэтая акцыя значна аблегчыла б блакаду немцамі партызан. У лесе Шпак зноў сустракаецца з Кастусём, які павінен перадаць радыёграму ў Маскву. З вельмі небяспечнага становішча Кастуся выратоўвае яго сябра Алесь. Ён забівае Шпака, а Крайко тым часам выкрывае яшчэ адну групу дыверсантаў. Такім чынам, варожыя агенты знішчаны, радыёграма перададзена, Масква прышле медыкаменты і харч...

Сюжэт аповесці разгортваецца дынамічна. Твор пабудаваны па законах прыгодніцкага жанру. Аднак гэта не замінае, а наадварот, дапамагае пісьменніку паказаць праўдзівую карціну штодзённага жыцця вялікага партызанскага злучэння, цяжкасці змагання з дыверсантамі ва ўмовах блакады. І нават у неверагодныя сітуацыі верыш: так было ці магло быць у той час. Аўтар у вайну сам быў радыстам, і гэта значна памагло яму ў вырашэнні творчай задачы.

Цікавыя, хоць і не поўнасцю раскрытыя, характары медыцынскай сястры Зіны, радыстаў Кастуся і Алеся. Яны здолелі захаваць у цяжкіх умовах нешта юнацкае, непасрэднае. Звяртае на сябе ўвагу і вобраз капітана Крайко, вопытнага разведчыка, спакойнага, мужнага, пільнага, які ўвасабляе, калі можна так сказаць, рацыяналістычны пачатак побач з эмацыянальнымі, няўрымслівымі юнакамі. Увогуле, многія характары будуюцца па аналогіях і супроцьпастаўленнях: Алесь і Кастусь, Зося і Зіна, Крайко і Кавальчук, Крайко і Шпак і інш.

М. Ваданосаў добра ведае асаблівасці жанру, у яго ёсць тое, што называюць «чуццём кампазіцыі», у разгортванні сюжэта ён амаль не губляе належнага густу і пачуцця меры.

Аповесць «Адзінай маці сыны», якой адкрываецца зборнік, была напісана ў 1969 годзе. Твор гэты таксама аб вайне, аб падпольшчыках, але ў ім не некалькі, а адзін галоўны герой, дакладней, гераіня — Кацярына Квяткоўская, простая, немаладая ўжо беларуская жанчына з цяжкім лёсам. Адзін сын яе памёр ад тыфуса, другога забіла ў першыя дні вайны, муж Стэфан — пад арыштам па фальшываму абвінавачванню яго былога сябра Андрэя Змачынскага, у далейшым паліцая, фашысцкага паслугача.

У першыя дні акупацыі Кацярына ў адчаі, у разгубленасці... Жыццё страціла для яе ўсякі сэнс, але яна бачыць, што гора прыйшло не толькі ў яе дом. І яна пачынае змагацца, спачатку па-свойму, па-жаночы: выратоўвае з нямецкага лагера шаснаццаць палонных савецкіх салдат, якіх называе сваімі сынамі... Аб яе подзвігу аўтар гаворыць проста, стрымана, сурова. Ён імкнецца стварыць тыповы вобраз савецкай жанчыны-маці. Адпаведна такой высокай задуме пісьменнік уздымае гэты вобраз да сімвалічна-алегарычнага абагульнення. У канцы аповесці ён прама падкрэслівае гэта: «І пакацілася чутка па зямлі беларускай, што сівая маці водзіць начамі ў бой сваіх адважных і смелых сыноў. І не было фашыстам ратунку там, дзе з'яўлялася з імі старая. Сталі ворагі баяцца той адважнай сівой жанчыны, бо ведалі, што ні куля яе не бярэ, ні граната, што яна, як здань, можа прайсці праз полымя пажару і стальную браню машын».

Акрамя ўзвышанай канцоўкі, агульны тон твора знешне спакойны, стрыманы, ён добра перадае цяжкія ўмовы змагання патрыётаў у час фашысцкай акупацыі. Характары М. Ваданосаў малюе буйнымі мазкамі, прывязваючы іх да калізій і кампазіцыі. Героі яго ваенных аповесцей і апавяданняў у большасці выпадкаў выпісаны праўдзіва і даволі пераканаўча.

Гэтага не скажаш пра многіх персанажаў самай вялікай аповесці «Надзеі і здзяйсненні», твора на сучасную тэму. Вельмі прыгожая і адукаваная дзяўчына Лена, што прыехала пасля заканчэння вучобы працаваць у родную вёску, апынулася... ў атмасферы чэрствасці, бяздушша і зайздрасці з боку яе аднавяскоўцаў, якія, дарэчы, выхавалі яе, сірату. Ненатуральна... Гэта адразу насцярожвае. Увесь час у думках Лена кагосьці папракае, на некага злуецца, і, здаецца, незадаволена ўсім на свеце, нікога не любіць, акрамя сябе. Здзіўляе, што побач з зацікаўленасцю да сваёй работы, шчырым імкненнем падняць культурны ўзровень калгаснікаў — нейкая неапраўданая нічым злосць на людзей.

Тэарэтычна Лена вельмі добрая, на справе ж не зусім так. Увесь час у тэксце сустракаеш: «...у злосці і крыўдзе падумала Лена», «...незадаволена падумала Лена», «Лена перамагла пачуццё непрыязні да гэтага чалавека» і г. д. Ці можа сапраўды добрая дзяўчына, якой яна ўяўляецца аўтару, амаль увесь час на некага злавацца, нават калі і ёсць за што?

Праўда, к канцу аповесці Лене ўжо хочацца знаходзіць у людзях толькі добрае. Але чытачу застаецца не зразумелым, чаму ў ёй адбываецца такая перамена, бо амаль увесь час яна адчувае сябе няшчаснай.

Нельга сцвярджаць, што такі характар увогуле не сустракаецца. Аднак, па-першае, калі ўжо паказваць яго эвалюцыю, дык пераканаўча, а па-другое, нельга не здзівіцца непамернаму захапленню аўтара сваёй гераіняй, бо аб'ектыўна, у адносінах з многімі людзьмі асабліва з Волькай, Алесем, Васілём, Пятром, яна паказана не з лепшага боку. Па сутнасці, Лена нікога не кахае, нікога не любіць, адно ёй хочацца мець абаронцу, памочніка, прасцей, кажучы, «рыцара». Ва ўчынках і думках Лены, ды і некаторых іншых персанажаў, многа супярэчнасцей.

Некалькі меладраматычныя і сентыментальныя, любоўныя гісторыі адбываюцца ў аповесці на фоне сатырычных карцін з жыцця вёскі. Плёткі і крывадушша жанчын, п'янства Віктара і Алеся, на якое ніхто да часу не звяртае ўвагі, гісторыя з хцівым дырэктарам школы Круцько і інспектарам з раёна Дзеравягам, паездкі калгасніц у рабочы гарачы час на кірмаш — усё гэта павінна садзейнічаць яшчэ большаму ўзвышэнню станоўчых герояў — Лены, Васіля, Пятра, паказваць, у якіх цяжкіх умовах прыходзіцца працаваць на вёсцы маладым спецыялістам. І хоць такая пазіцыя аўтара не можа не выклікаць здзіўлення, самі па сабе гэтыя малюнкі і сітуацыі зроблены надрэнна і сведчаць аб несумненным сатырычным майстэрстве пісьменніка.

Дзеянне большасці апавяданняў, сабраных у зборніку, вядзецца ў двух планах. Мірнае жыццё і вайна, як змяняе яна лёс людзей — вось тэмы апавяданняў М. Ваданосава. У адным з іх «Да заўтрага...» з хваляваннем апісваецца сустрэча сталага чалавека са сваёй першай каханай, з якой так многа прыйшлося перажыць у гады вайны. У апавяданні «Залаты пярсцёнак» адзін з герояў канчае самагубствам. І толькі адзін чалавек у вёсцы, Сцяпан, ведае, што той быў здраднікам і забойцам яго, Сцяпанавай жонкі. Такі чалавек не павінен жыць сярод сумленных людзей. Праўда, яшчэ можна спрачацца аб пазіцыі Сцяпана, які не выдае злодзея людзям, а дае яму магчымасць самому вырашыць свой лёс.

Апавяданні «Галасы на вадзе», «Ля старарэчышча», «Журавы»—аб нашым часе, але і ў іх жыве ўспамін — успамін аб юнацтве, аб каханні. Таму апавяданні гэтыя набываюць характар лірычнай споведзі, у іх чуецца прызнанне ў любові да роднага краю, родных мясцін. Манера пісьменніка тут больш спакойная, інтанацыя больш удумлівая. І ўсё ж, варта адзначыць, што лірыка не заўсёды дапамагае аўтару стварыць паўнакроўныя вобразы, яму больш удаецца аб'ектыўнае апавяданне аб падзеях і героях.

Нягледзячы на некаторыя, часам і значныя недахопы, выбранае М. Ваданосава сведчыць, што пісьменнік — у творчых пошуках, а калі гэта так, ад яго можна чакаць новыя цікавыя творы.

**Т. ШАМЯКІНА.**

М. Ваданосаў. «Дзе віруе Бяроза». Аповесці і апавяданні. Мінск, «Мастацкая літаратура», 1973 г.

# ЛЁТЧЫК ВАСІЛЬ

Аднойчы на сустрэчы партызан брыгады «Іскра» атрада «За Савецкую Беларусь», якая дзейнічала ў гады ваеннага ліхалецця ў Лідскіх лясах, мне давялося пачуць аб лядовым аэрадроме на возеры Чырвоным. Пра гэта гаварылі з захапленнем людзі, якіх, здавалася, не здзівіш подзвігам. З нейкім асаблівым гонарам яны расказвалі аб «каменданце лядовага аэрадрома» лётчыку Васілю.

Сустрэча тая адбылася некалькі гадоў назад і я, шчыра кажучы, забыўся пра лётчыка Васіля. Але вось неяк у рэдакцыю прыйшло пісьмо ад слесара кіеўскага завода «Арсенал» Сямёна Міхайлавіча Стаднюка:

«Дарагія сябры-беларусы! Звяртаецца да вас былы партызан легендарнага злучэння двойчы Героя Савецкага Саюза С. Каўпака. У вас у Мінску жыве выдатны чалавек — Васіль Галота, якога ўсе гэтыя гады ўспамінаю з вялікай удзячнасцю, бо ён выратаваў мне жыццё. У 1943 годзе наш атрад, ідучы з баямі да Карпат, аказаўся ў лясах Беларусі на Прыпяці. Фашысты паставілі перад сабой мэту любымі сродкамі знішчыць нас — сцягнулі артылерыю, авіяцыю, эсэсаўскую дывізію «Мёртвая галава». У адным з баёў я быў цяжка паранены ў жывот. Параненых сабралася некалькі соцень чалавек. На Вялікую зямлю вывозіў нас лётчык Вася — так яго ўсе звалі. Ён сам адмарозіў абедзве нагі, але пакуль не пасадзіў у самалёт апошняга параненага партызана, не пакінуў аэрадром.

Вельмі хацелася б яго знайсці, даведацца, як ён жыве, чым займаецца, нізка пакланіцца нашаму баявому таварышу...»

Пісьмо было хвалюючае. Захацелася адшукаць чалавека, пра якога ў ім напісана. Не буду расказваць, як вяліся пошукі. Доўгі час яны былі беспаспяховыя. Але неяк у Музеі гісторыі Айчыннай вайны знаёмыць мяне з сівым чалавекам, пра якога расказваюць, што ён быў у час вайны пілотам, лятаў да партызан. Назваўся ён Бугрымовічам. Я спытаў, ці не ведаў ён такога лётчыка — Галоту, які таксама рабіў палёты да партызан.

— Галота гэта я, — усміхнуўся ў адказ Бугрымовіч.

Я сумеўся ад нечаканасці.

— Вы ж — Бугрымовіч.

— Так. І Галота.

— А як ваша імя?

— Васіль Іванавіч.

...У той жа вечар мы сядзелі ў яго дома. Васіль Іванавіч, хвалюючыся, расказваў пра сваіх баявых таварышаў. Паказваў пісьмы, фатаграфіі. Ля невялікага самалёта — група партызан: хто ў шынялі, хто ў паўкажушку, хто ў фуфайцы. Пасярод — чалавек у камбінезоне, у лётным скураным шлеме — гэта ён, лётчык Вася. На другой фатаграфіі — самалёт цягнуць коні. Перадыслакацыя. А вось два барадачы. На грудзях — залатыя зоркі. Гэта Сідар Арцем'евіч Каўпак і Пётр Пятровіч Вяршыгара. Яшчэ фатаграфія — сам Васіль Іванавіч з ордэнамі і медалямі.

Як дарагую рэліквію, паказвае Бугрымовіч пісьмо ад Героя Савецкага Саюза, адказнага сакратара Савецкага камітэта ветэранаў вайны Аляксея Марэсьева, які павіншаваў яго з 60-годдзем.

Слаўнае мінулае ў чалавека. Вось толькі некаторыя старонкі яго біяграфіі.

...Ішлі першыя дні вайны. Гарачыя баі разгарэліся на подступах да Магілёва. А лётчык грамадзянскай авіяцыі Бугрымовіч усё яшчэ лётаў на ціхаходным самалёце «ПО-2», на якім і кулямёт не паставіш.



У тыя грозныя дні ў Магілёве быў Клімент Яфрэмавіч Варашылаў. Ён запрасіў да сябе групу лётчыкаў і сказаў, што трэба наладзіць сувязь з сотай дывізіяй, якая трапіла пад Мінскам у варожае кальцо. Узяўся за гэтую справу Бугрымовіч.

— Толькі на маёй «стракозе» і прарвацца, таварыш маршал. Магу сесці на любой лясной паляне, пад капой сена, і тут жа зноў узляцець.

Клімент Яфрэмавіч дазволіў. Пяць разоў даводзілася Бугрымовічу садзіць самалёт проста «на жывот», каб выратавацца ад «месершмітаў», і потым зноў працягваць палёт пад агнём ворага. Пад Оршай тры «месеры» нечакана вынырнулі з-за воблакаў. Аднак Васіль Іванавіч здолеў пасадзіць машыну на «пятачок» ля ракі, паспеў выскачыць з кабіны і схавацца за валуном. Фашысты працягвалі пікіраваць і пакуль не падпалілі самалёт, не супакоіліся.

Бугрымовіч быў паранены ў нагу. Трое сутак праз лясы і балоты прабіраўся да месца размяшчэння сотай дывізіі. Але каштоўны пакет уручыў. Асабіста генералу Русіянаву, камандзіру сотай... За гэта быў узнагароджаны першым ордэнам Чырвонага Сцяга.

Прайшоў год. Бугрымовіч стаў ваенным, а не грамадзянскім лётчыкам, лётаў на баявым самалёце «ІЛ-2». Аднойчы ў машыну пацэліў снарад. Васіль Іванавіч паспеў выскачыць з парашутам. Фашысты стралялі па ім у паветры, паранілі ў ногі. Ужо лежачы на зямлі, не ў стане зварухнуцца, ён бачыў, як таварышы пакружылі над ім, аддалі апошнія ўшанаванні і пайшлі на захад біць ворага.

Пазней ён даведаўся, што, вярнуўшыся ў часць, таварышы далажылі аб яго смерці. Жонцы была накіравана пахавальная: «Ваш муж, Бугрымовіч Васіль Іванавіч, верны воінскай прысязе, загінуў смерцю храбрых у барацьбе з нямецка - фашысцкімі захопнікамі за гонар і незалежнасць нашай Радзімы. Вечная яму слава!»

Між тым, Васіль Іванавіч, сцяўшы ад болю зубы, на руках поўз па полю. Кіраваўся да недалёкага стажка — зусім недалёкага, а дапоўз да яго праз некалькі гадзін. Дапоўз і страціў прытомнасць. Калі ж апрытомнеў, над галавою стаяла зорнае неба, здаля чуваць быў сабачы брэх. Зноў папоўз. На досвітку дабраўся да вёскі. Паціху пастукаў у акенца першай хаты. Адтуль выйшла жанчына.

Як горка і крыўдна, што цяпер, праз дзесяткі гадоў, у памяці не захавалася імя той кабеты. Памятаецца толькі, што была яна салдатка, маці трох дзяцей. Каб не яна, невядома яшчэ, як склаўся б яго лёс далей. Восем сутак хавала яна яго як магла, лячыла, апошнім кавалкам хлеба дзялілася... Пакуль сяк-так не стаў ён на ногі. І адразу пачаў думаць, як да сваіх дабрацца. Нейкі хлопец паабяцаў звесці з партызанамі. Уначы выйшлі разам з вёскі, але адышлі недалёка — за ваколіцай іх чакалі паліцаі: хлопец аказаўся іх памагатым...

Далей былі канцлагеры. Смаленскі, Аршанскі. З Оршы павезлі ў вагонах для жывёлы на захад. Па дарозе даведаліся — ў Асвенцім. Уначы ўдалося вырваць некалькі дошак у падлозе і выскачыць...

Не дзень, не тыдзень ішоў, а дакляпаў у роднае сяло на Палессі. Маці ўбачыла, спалохалася — такі ён быў змарнелы, знясілены.

Як ні таілася маці, даведаліся ў вёсцы, што ў хаце ў яе госць, і не абы-які. Мінула колькі дзён, і ноччу ў дзверы загрукалі — нячыстая прынесла паліцаяў...

Канечне, пазналі — не чужы ж, тут у вёсцы вырас. А што лётчык, дык ведалі — маці перад вайной усім суседзям сынам хвалілася, фотаздымкі, дзе ён у форме, паказвала. Так што размовы доўгай з ім не вялі — выгналі ў двор, са пуняй прыставілі да сцяны, з пахаладзелым сэрцам пачуў Бугрымовіч стрэлы і... застаўся стаяць. Уціснуў галаву ў плечы—тварам ён да сцяны стаяў—новых стрэлаў чакаў і... не дачакаўся. Асцярожна азірнуўся, вачам сваім не паверыў: ён стаіць жывы, а паліцаі, што ў яго стралялі, ляжаць забітыя.

— Бачу, — расказвае Васіль Іванавіч, — да мяне праз бульбоўнік бяжыць Пятро, брат мой, у форме паліцыя. Але я ад маці ведаю — ён партызан. Абняў мяне братуха, расцалаваў. Расказаў, што партызаны, даведаўшыся аб савецкім лётчыку ў вёсцы, рашылі выратаваць яго.

Далей што было? Далей прывялі мяне ў партызанскі лагер. І выходзіць мне насустрач з будана чалавек з вострай сівой бародкай, у шынялі, накінутым на плечы, усміхаецца: «Чи снидав ты, Галота?» Я прамаўчаў. «Паїж і спаты!»— загадаў. Вось так, з лёгкай рукі Сідара Арцем'евіча Каўпака і прыляпілася ў атрадзе да мяне мянушка Галота. Многія сапраўднага прозвішча не ведалі...

Васіль Іванавіч расказаў і пра «Лядовую эпапею». Патрэбны былі боепрыпасы, медыкаменты, у партызанскім шпіталі сабралася больш за трыста параненых. Іх неабходна было вывезці. Але нашы самалёты не прылятаі, бо не было дзе сесці.

Васіль Іванавіч прапанаваў абсталяваць аэрадром проста на лёдзе возера.

— Але ж лёд танюткі, як шкло, — запярэчылі яму. — Самалёт праваліцца.

— Наросцім новы пласт, — адказаў Бугрымовіч.

Партызаны прыступілі да работы. Прабілі некалькі палонак. Адтуль чэрпалі вёдрамі ваду і палівалі ўзлётна-пасадачную пляцоўку. Аэрадром атрымаўся на славу. І ўсё ж авіяцыйнае камандаванне вагалася, ці пасылаць цяжкія «ЛІ-2» на лядовы аэрадром. Тады Каўпак выклікаў да сябе Бугрымовіча. «Яки ти був лётчик?». «Пілот другога класа, таварыш генерал». «Ведаюць цябе там?» «Павінны ведаць». І тады Каўпак загадаў падрыхтаваць радыёграму: «Аэрадром падрыхтаваны пад кіраўніцтвам лётчыка другога класа Бугрымовіча».

Неўзабаве ў адну з марозных начэй, пры падсветцы пераскоўных кастроў, прыляцеў з-за лініі фронту першы самалёт. З вялікай радасцю сустрэлі партызаны лётчыка — Героя Савецкага Саюза Міхаіла Лунца. З гэтага дня самалёты сталі прылятаць часта. Закідвалі партызанам боепрыпасы, медыкаменты, прадукты, вывозілі параненых.

Аднойчы непагадзь бушавала тры дні і тры ночы. Мароз усё мацнеў, завіруха і люты вецер збівалі з ног. Але партызаны заставаліся на возеры — чакалі самалёта. А яго ўсё няма і няма. «Камендант» аэрадрома паслаў людзей у зямлянку сагрэцца, а сам застаўся на пасту. Нарэшце, самалёт прыйшоў, людзі пабеглі насустрач, а Васіль Іванавіч не здолеў ступіць з месца — адчуў сябе кепска. З цяжкасцю дашкандыбаў да зямлянкі і папрасіў, каб яму сцягнулі валёнкі — прымерзлі да ног. Урач далажыў Вяршыгары, што «Галоту» неабходна накіраваць у шпіталь праз лінію фронту, у яго адмарожаны ногі.

— Той рэйс на Вялікую зямлю мне вельмі запомніўся, — расказвае Бугрымовіч. — Разам са мною ляцеў дабрадушны, вясёлы стары. Гэта быў дзед Талаш. Да таго часу я ведаў дзеда Талаша па кнізе Якуба Коласа. І вось ён — побач са мной. У Крамлі мы разам атрымалі высокую ўрадавую ўзнагароду — ордэн Чырвонага Сцяга. Уручаў нам яе Міхаіл Іванавіч Калінін...

У шпіталі Бугрымовіч знаходзіўся нядоўга. Не было часу адлежвацца. Яшчэ грымела вайна. У маі ён ужо лётаў да партызан.

— Мне пашчасціла: 4 ліпеня 1944 года я першым прызямліўся на аэрадроме ў вызваленым родным Мінску, а 12 мая 1945 года з самалёта над Берлінам бачыў, як дагарэў рэйхстаг.

Пасля вайны Бугрымовіч яшчэ дзесяць гадоў працаваў лётчыкам - інструктарам. Цяпер ён на пенсіі...

27 жніўня 1967 года газета «Праўда» пісала: «...Не забывае Радзіма і тых, хто ў гады выпрабаванняў не шкадаваў свайго жыцця дзеля абароны сацыялістычнай Айчыны. Такім мужным воінам быў і Васіль Іванавіч Бугрымовіч».

**Я. МАЗО.**



*На партызанскім аэрадроме. У сярэдзіне Васіль Бугрымовіч.*





Пасля працоўнага дня хлопцы і дзяўчаты вёскі Камуна Любанскага раёна спяшаюцца ў сельскі клуб. Любяць хлебаробы калгаса імя БВА слухаць песні ў выкананні салістак — бухгалтара Святланы Гарэлька і аператара Святланы Шляпко. 25 гадоў працуе ў паляводстве Дзмітрый Яскевіч, і ўсе гэтыя гады ён таксама выступае на сцэне. «Яблычка», «Рускі перапляс» і шмат іншых танцаў у яго рэпертуары. Задушэўна спявае начальнік паштовага аддзялення Алена Лучанковіч і настаўнік Аляксандр Рэмеза. Апладысментамі сустракаюць гледачы дуэт сясцёр Святланы і Кацярыны Пучынскіх, якім акампануе баяніст Раман Тарчэня (на здымках злева направа).

Фота Ул. КАШКАНА, А. ЛУКАШОВА.





# КЛУБ «АРЛЯНЯТЫ»

**Б**ОЛЬШ як год таму вучні Ганцавіцкай школы Барысаўскага раёна ўпершыню з хваляваннем пераступілі парог Літаратурнага музея Янкі Купалы ў Мінску.

Тады яны не думалі, што гэтае наведванне з'явіцца пачаткам той вялікай і цікавай работы, якую распачнуць пазней па збору і вывучэнню багатай літаратурнай спадчыны не толькі Янкі Купалы, але і многіх беларускіх пісьменнікаў.

Вучні ўпершыню пачулі ў запісу голас паэта, наглядна ўбачылі ўсё тое, аб чым гаварылі на ўроках настаўнікі. Яны вырашылі больш глыбока вывучыць біяграфію паэта, сабраць матэрыял аб яго жыцці і дзейнасці, наладзіць агульнашкольны літаратурны вечар, прысвечаны песняру.

Добрая задума дзяцей знайшла жывы водгук і гарачую падтрымку настаўніцкага калектыву, які ўзначальвае дырэктар Ганцавіцкай школы Іван Фёдаравіч Лагімахаў. А першым памочнікам і дарадчыкам іх была выкладчыца роднай літаратуры Вольга Васільеўна Бузо. Гэта яна падказвала сваім выхаванцам, з чаго пачынаць работу, як лепш аформіць газету, стэнды, якія падабраць для вечара вершы, песні, урыўкі з твораў Купалы.

З нецярпеннем чакалі тады вучні прыезду сваіх першых гасцей — вядомага дзіцячага пісьменніка Васіля Віткі і супрацоўнікаў музея Купалы. У іх ужо было што паказаць і расказаць.

Адзін з класаў школы стаў своеасаблівым школьным музеем. На стэндах размешчаны матэрыялы аб жыцці і творчасці Я. Купалы, Я. Коласа, М. Багдановіча, К. Чорнага і іншых пісьменнікаў. У самым прыгожым і светлым куточку школы ўстаноўлен бюст Янкі Купалы.

Неўзабаве ганцавіцкія школьнікі вырашылі стварыць у сваёй школе клуб юных аматараў паэзіі «Арляняты».

З вялікім энтузіязмам узяліся за справу. Члены клуба падрыхтавалі і разаслалі многім пісьменнікам пісьмы з просьбаю прыслаць свае ўспаміны пра Я. Купалу, творы, прысвечаныя песняру, кніжкі, фотаздымкі.

На лісты вучняў адгукнуліся Максім Танк, Пімен Панчанка, Эдзі Агняцвет, Васіль Вітка, Мікола Аўрамчык, Мікола Хведаровіч. А ўкраінскі пісьменнік Алекса Юшчанка разам са сваім перакладам верша Янкі Купалы «Крым» прыслаў верш, спецыяльна прысвечаны клубу «Арляняты».

Клуб «Арляняты» яшчэ толькі набірае сілу. А наперадзе новыя задумы і планы. Летам члены клуба збіраюцца наведаць радзіму Купалы — Вязынку, і тыя мясціны, дзе жыў і працаваў паэт.

Тамара ТАРАСАВА.

НАРОДНЫ ТЭАТР І ЯГО ПРАБЛЕМЫ

# ХТО Ж АДКРЫЕ ЗАСЛОНУ?

Летась грамадскасць нашага раёна ўрачыста адзначыла дзесяцігоддзе Краснапольскага народнага тэатра. Ставіліся спектаклі па п'есах беларускіх аўтараў: «Лявоніха на арбіце», «Не верце цішыні», «Грэшнае каханне», «Чырвоныя кветкі Беларусі», «Папараць-кветка», «Над хвалямі Серабранкі» і па творах драматургаў братніх рэспублік: «Платон Крэчат» А. Карнейчука, «Барабаншчыца» А. Салынскага, «Блудны сын» Э. Ранета. Амаль ва ўсіх раёнах вобласці, а таксама ў Магілёве і Мінску паказваў свае работы тэатр. Глядач сустракаў спектаклі з вялікай увагай і радасцю.

А потым пачаліся перапады: адшуміць прэм'ера, пройдуць спектаклі і наступае зацішак, іншы раз на доўгі час — на паўгода, а то і на год. Прычына адна — часта мяняліся рэжысёры. За дзесяць год іх працавала ў тэатры аж сем. Хто толькі ні кіраваў народным тэатрам! Былі і ўлюбёныя ў сваю справу людзі, якія ўвесь запал свайго сэрца аддавалі калектыву. Сустракаліся і такія, што лічылі тэатр часовым прытулкам — прыедзе, «пакіруе» крыху і паедзе шукаць ці то даўжэйшага рубля, ці шырэйшай сцэны. Вось тады і наступаў зацішак.

Прыгадваецца рэжысёр Віктар Брылёў. Ён неяк адразу стаў сваім чалавекам у калектыве, з павагай ставіўся да старэйшых артыстаў тэатра, шукаў таленавітую моладзь. Па яго ініцыятыве працавала студыя, у якой маладыя аматары сцэны вывучалі першыя азы тэатральнага мастацтва. Гэта прынесла добры плён.

Пачалася работа над спектаклем польскага драматурга Г. Запольскай «Мараль пані Дульскай». Працавалі з вялікай зацікаўленасцю. Прэм'ера была сустрэта гледачом прыхільна. Спектакль ставіўся многа разоў і карыстаўся поспехам.

Значыць, ёсць у Краснаполлі таленавітыя людзі. Ды вось бяда — і Віктар Брылёў доўга не затрымаўся ў нас. Работа спынілася і, відаць, надоўга, бо апошняя прэм'ера адбылася больш як год таму...

І па сённяшні дзень невядома, будзе ўсё-такі «падабраны» рэжысёр ці не? Не скажаш, што мясцовыя арганізацыі абыякава ставіліся да лёсу гэтых спецыялістаў. Калі чалавек браўся за справу, ён неўзабаве атрымліваў кватэру ў раённым цэнтры. Дапамагалі народнаму тэатру ўсім, чым маглі. Дык у чым жа справа?

Напрошваецца думка. Відаць, пабходна, каб інстытуты культуры і наш беларускі тэатральна-мастацкі інстытут, якія рыхтуюць рэжысёраў народных тэатраў, выхоўвалі ў будучых маладых спецыялістаў павагу да сваёй прафесіі, каб яны не лічылі народны тэатр нейкай другараднай, ніжэйшай інстанцыяй, каб яны ведалі, што ім давядзецца працаваць у «глыбінцы» і не цураліся яе.

Трэба вярнуць былую славу Краснапольскаму народнаму тэатру. Пакуль жа тэатральная заслона закрыта.

С. СЯМЁНАЎ,
намеснік рэдактара газеты «Чырвоны сцяг».

## ВІНШУЕМ З ЮБІЛЕЕМ!

Грамадскасць рэспублікі адзначае 60-годдзе з дня нараджэння беларускага савецкага літаратуразнаўцы, правадзейнага члена Акадэміі педагагічных навук СССР Васіля Івашына. З гэтага выпадку праўленне Саюза пісьменнікаў Беларусі накіравала юбіляру прывітанне, у якім гаворыцца:

«Дарагі Васіль Уладзіміравіч!

Мы, Вашы таварышы па пяру, сардэчна віншуем Вас, вядомага літаратуразнаўцу і крытыка, з 60-годдзем з дня нараджэння.

Сваю літаратурна-крытычную дзейнасць Вы пачалі з даследавання творчасці Янкі Купалы. Пазней творчасці народнага песняра Вы прысвяцілі манаграфію. Вашы працы аб узаемасувязях рускай і беларускай літаратур, аб вытоках сацыялістычнага рэалізму ў нашай літаратуры з'яўляюцца значным укладам у беларускае літаратуразнаўства. На Вашым творчым рахунку таксама артыкулы аб творчасці Я. Коласа, Цёткі, М. Багдановіча, К. Крапівы.

З вялікім задавальненнем мы адзначаем і тое, што Вы з'яўляецеся сааўтарам школьнага падручніка па беларускай літаратуры, шмат энергіі аддаяце навукова-педагагічнай дзейнасці — працуеце дырэктарам Навукова-даследчага Інстытута педагогікі БССР.

Жадаем Вам, дарагі Васіль Уладзіміравіч, добрага здароўя, доўгіх год жыцця, далейшых поспехаў у літаратурна-крытычнай і навукова-педагагічнай дзейнасці».

Рэдакцыя штотыднёвіка «Літаратура і мастацтва» далучаецца да гэтага віншавання і жадае юбіляру новых творчых поспехаў, а таксама плёну ў педагагічнай дзейнасці.

# СТАЛАСЦЬ

Васілю Уладзіміравічу Івашыну — шэсцьдзесят. Пройдзены немалы жыццёвы шлях, багаты не толькі колькасцю пражытых гадоў, а і значнасцю зробленага. Савецкая ўлада вывела вясковага хлопца на прасторы жыцця, дала магчымасць падняцца да навуковых вышынь. Сёння Васіль Уладзіміравіч — доктар філалагічных навук, правадзейны член Акадэміі педагагічных навук СССР, дырэктар Інстытута педагогікі БССР. У далёкім мінулым засталіся 30-я гады — гады студэнцтва і выкладчыцкай працы. Іх аддзяліла ад сучаснасці вогненная паласа ваеннага часу...

І хоць сівізна пабяліла галаву, але, як і раней, па-маладому, пранікліва, з хітрынкай свецяцца вочы, лагодная ўсмешка аздабляе твар чалавека, у якога вялікі жыццёвы і духоўны вопыт, багаты творчы, навуковы набытак.

Больш двух дзесяцігоддзяў актыўна працуе В. Івашын на ніве беларускай крытыкі і літаратуразнаўства. Артыкулы, кнігі, манаграфіі... Даследчык ставіў і вырашаў надзённыя, актуальныя праблемы, якія і сёння турбуюць наша літаратуразнаўства: «Янка Купала. Творчасць перыяду рэвалюцыі 1905—1907 гг.» (1953), «Горький и белорусская литература начала XX века» (1956), «У истоков социалистического реализма» (1963) і г. д.

Кніга «У истоков социалистического реализма», якая была паспяхова абаронена В. Івашыным як доктарская дысертацыя, — сапраўды маштабнае, грунтоўнае даследаванне нацыянальных вытокаў сацыялістычнага рэалізму ў нашай літаратуры, сувязі беларускай савецкай літаратуры з нацыянальнымі традыцыямі, традыцыямі рускай літаратуры.

І хто б сёння ні браўся за далейшую распрацоўку пытанняў генезісу сацыялістычнага рэалізму ў беларускай літаратуры, яе развіцця ў сям'і братніх літаратур, ролі нацыянальных традыцый і традыцый рускай літаратуры, ён не зможа абысці сваёй увагай працы В. Івашына.

Літаратуразнаўчая дзейнасць В. Івашына праз доўгія гады была непасрэдна звязана з працай у Інстытуце літаратуры імя Янкі Купалы АН БССР. Аспірант, навуковы супрацоўнік, загадчык сектара... Кіраўніцтва сектарам, у якім упершыню стваралася «Гісторыя беларускай савецкай літаратуры» ў двух тамах. В. Івашын працаваў з поўнай грамадзянскай адказнасцю і высокай партыйнай патрабавальнасцю. Па некалькі разоў перапісваліся, правіліся і рэдагаваліся раздзелы. Тады многім супрацоўнікам здавалася, што навуковы кіраўнік тэмы і рэдактар залішне патрабавальны, часам прыдзірлівы. Але гэта была не дробязная прыдзірлівасць, а высокая, навуковая патрабавальнасць.

Побач з навуковымі літаратуразнаўчымі інтарэсамі пастаянна жыла ў душы Васіля Уладзіміравіча зацікаўленасць праблемамі навучання і выхавання, праблемамі школы. Ён быў адным з аўтараў першага падручніка беларускай літаратуры для сярэдняй школы, нарысаў па беларускай літаратуры для студэнтаў. Цяпер жа В. Івашын, як дырэктар Інстытута педагогікі, з усёй сваёй энергіяй і працаздольнасцю аддаўся новай справе, праблемам педагогікі, методыкі, псіхалогіі, новым метадам навучання. А гэта нялёгкая, ды пачэсная праца патрабуе ўсяго чалавека. Нарады, канферэнцыі, сімпозіумы... Рэспубліканскія, усесаюзныя, міжнародныя... А час ідзе, бягуць гады. Таму іншы раз з непрыхаваным сумам пазайздросціць В. Івашын тым, у каго шмат часу, хто можа аддацца творчай навуковай працы. Аднак і ён знаходзіць час для літаратуразнаўства. З прыемнасцю сустракаешся ў перыядычным друку з тэарэтычна грунтоўнымі артыкуламі, у якіх вырашаюцца кардынальныя праблемы сучаснага літаратурнага працэсу — праблемы ўзаемазбліжэння і ўзаемаўзбагачэння літаратур народаў СССР, іх паскоранага развіцця, партыйнай адказнасці творчай індывідуальнасці пісьменніка перад сваім часам, сваім народам.



Шэсцьдзесят... Час сталасці. Час роздумаў і падрахункаў зробленага ў жыцці. Але не толькі падрахункаў, а і планаў на будучае. У Васіля Уладзіміравіча багата творчых задум. Пажадаем жа яму, каб яны здзейсніліся!

**Павел ДЗЮБАЙЛА,**
доктар філалагічных навук.




Скульптары летам і восенню працавалі ў Валгаградзе над адным з помнікаў у гонар разгрома ворага. Яны пражылі там некалькі месяцаў і вельмі часта пільна ўзіраліся ва ўсё, што акружала іх пад небам горада-героя. Асабліва любілі яны ўзбірацца на вяршыню Мамаева кургана і адтуль глядзець на Волгу, на новыя карпусы дамоў, на стэп, які разбягаўся ва ўсе бакі.

Недзе каля самага краю гэтага стэпу лёгкія сінява́тыя дымкі новых заводаў зліваліся з размытай, амаль празрыстай лініяй даляглядў, і вось, быццам рассоўваліся, рабіліся яшчэ больш прывольнымі і без таго неабсяжныя прасторы. Буксіры, старанна стукаючы па вадзе, уздоўж і ўпоперак лінавалі Волгу, і яна паміж далёкімі берагамі здавалася разгорнутай вялізнай картай — з паралелямі і мерыдыянамі...

Нельга было не залюбавацца ўсім навокал. Напэўна, менавіта таму адзін з самых юных у брыгадзе камсамолец Вася Моўчан кожную раніцу будзіў сваіх сяброў словамі ім самім прыдуманай песні пра росквіт зямлі, за якую ён ваяваў. І нягледзячы на тое, што аўтару ў дні вялікай бітвы не было, пэўна, і трох год, менавіта з яго песняй штодня прымаліся скульптары за работу. Яны і самі не заўважалі, як пад іх загрубелымі рукамі ўзніклі першыя контуры помніка.

Дзень за днём, гадзіна за гадзінай ён выяўляўся ўсё больш выразна, і хутка нават здалёк было відаць — на фоне легендарнага кургана вырастала крамнёвага колеру фігура рускай жанчыны-маці, у глыбокай журбоце схіленай над загінуўшым воінам. Яе мужная немата была мацней за ўсе словы, і раптам усё навокал — і ўсеяныя кветкамі паляны, і памялелыя акопы, і ў вечнасць бягучыя воблакі — усё напоўнілася для маладых новым, яшчэ не зведаным сэнсам. Нават звычайны вецер-стэпняк засвістаў у іх вушах неяк па-асабліваму. Здавалася, ён даносіць да слыху водгулле тых, даўно адшумелых баёў.

А помнік усё рос. Народжаныя ім вобразы ўсё больш авалодвалі пачуццямі і думамі яго будаўнікоў.

Прыйшоўшы неяк раніцай да месца работы, хлопцы ўвогуле застылі ад здзіўлення — у каменнай руцэ жанчыны, разгорнутая венчыкам да сонца, хісталася і трапятала на ветры маленькая, ледзьве прыкметная кветачка. Падышлі бліжэй — бяссмертнік!

Галоўны скульптар, зусім сівы, але яшчэ магутны стары, паглядзеў спачатку на кветку, потым на сваіх юных памочнікаў, абышоў разы два вакол помніка, задумліва ўсміхнуўся:

— Малайцы, саратнікі! Вельмі правільна зрабілі.

«Саратнікі» прамаўчалі. Толькі яшчэ дружней і званчэй зазвінела жалеза аб камень.

Кветку хутка запарушыла шэрай крошкай, а потым і зусім здзьмухнула некуды. Хацелі ў канцы дня адшукаць бяссмертнік, уставіць яго на ранейшае месца, ды так запрацаваліся, што і забыліся пра яго зусім.

Але, дзіўная рэч, — у наступную раніцу кветка зноў засвяцілася ў каменнай руцэ! Ні пылінкі на ёй, ні парушынкі...

— Ну я ж гаварыў, малайцы, нічога не скажаш! — зноў усміхнуўся стары.

І вось бяссмертнік, малюсенькі, ад прыроды не надта яркі, цвердаваты і ўвесь нейкі натапыраны, кожную раніцу стаў расцвітаць сярод каменю.

Увечары ідуць скульптары дадому — няма кветкі. У раніцы хоць і спяшаюцца, перагнаць яго не могуць. Прыйдуць у сем гадзін — ён ужо красуецца. У шэсць з'явяцца—ён на пасту.

Працуюць, а самі ўсё пра кветку думаюць.

Аднойчы глыбокай ноччу нехта з хлопцаў падняў усіх і гаркнуў гучна, як днявальны па роце:

— Моўчан!

— Што Моўчан? — успалашылася брыгада.

—Вася зараз устаў, паціху апрануўся і пайшоў да помніка.

— Значыцца, ён.

— Ну, вядомая рэч!

Ухмыльнуліся, залеглі на другі бок, але болей ужо не заснулі. Ляжаць гадзіну, ляжаць дзве, а Васі ўсё няма.

— Напэўна, кветкі шукае. Цемра вунь якая!

— Не хвалюйцеся, ён, мабыць, з вечара ўсё падрыхтаваў.

Зірнулі, а са шклянкі з Васевай тумбачкі, з-за штыкету востра заточаных алоўкаў, сапраўды, кветка выглядвае — гэткая ж, як тая.

— Цяпер усё зразумела. Але — ціха! Хутка з'явіцца наш лірык. Цур, ніякіх размоў не заводзіць.

Вяртаецца Моўчан на досвітку. Ні ад кога не тоячыся, ён з грукатам расчыняе дзверы і яшчэ з парога крычыць на ўсю Волгу-матухну:

— Уставай!

І высыпае з мокрага каша на стол гару жывой рыбы:

— Папраўляйцеся, хлопцы!

Хлопцы пераглядваюцца, нічога не разумеючы, дзякуюць:

— Во добра! Слаўная будзе юшка!

А кветка, як заўсёды, і ў той ранак чакае іх на сваім месцы. Убачыўшы яе, Вася шматзначна пазірае на сяброў:

— Думаеце, містыка?

— А ты лічыш,—як?

— Высакародны чалавек па зямлі гэтай ходзіць!

— Пра гэта мы, уяві сабе, даўно здагадаліся. Ты лепей скажы, хто гэты высакародны?

— Пасля сённяшняй ночы магу далажыць дакладна.

— Хто ж?

Моўчан нетаропка паварочваецца да Волгі, шчыльна засцеленай ранішняй смугой.

— Вунь тую бабку бачыце? Ву-н-унь да прыстані крочыць па халадку.

— Ну, дапусцім, крочыць.

— Яна.

— Вось гэта ўжо містыка.

Вася пакрыўджана пацепвае плячом.

— Хто сумняваецца, можа праверыць.

Два ганцы-добраахвотнікі тут жа кідаюцца з месца ў кар'ер і знікаюць за паваротка́й сцяжынкі.

— Гэй, вы, акуратней там,—гучыць ім наўздагон,—незнарок не пакрыўдзьце старую!

Хлопцы вяртаюцца чамусьці вельмі не скора. Выгляд у іх нейкі дзіўны—і ўрачысты, і ледзьледзь збянтэжаны.

— Ну, што? — пытаюць, абступіўшы іх з усіх бакоў, сябры.—Зачакаліся вас. Дагналі?

— Дагналі...

— Яна?

— Яна.

— А як жа вы спыталі?

— Ды проста так і спыталі. Ваш, гаворым, матуля, бяссмертнік, на помніку, вунь там?

— Так. А яна?

— Яна адказвае: мой.

— Здарова! А вы?

— А мы—дзякуй, гаворым, вам ад усіх нас. Усю восень кветкамі вашымі любуемся.

— Малайцы! А яна што ж?

— А яна хораша так паглядзела нам у вочы і заспяшалася да парахода. Мы, вядома, за ёй, дапамагчы, значыцца, хочам пры пасадцы. А перад самым трапам яна азіраецца на нас і гаворыць: — Толькі я, сыночкі, тут першы раз—сёння прыехала, сёння і назад. Дай, думаю, на старасці год хоць адным вокам зірну на гэтыя мясціны. Астраханскія нашы даўно ўжо ўсе тут перабылі. Мая чарга толькі цяпер падышла...

— Што ж,—перабіваюць хлопцы сваіх ганцоў,—выходзіць, і яна, і не яна?!

— Выходзіць, так...

— Ды ці тую вы дагналі хоць? Тая была ў чорнай хустцы,—рэзка паварочваецца да Волгі Вася Моўчан.

— У чорнай?!.

— У чорнай, разумееш, у зусім чорнай.

— Не-е, гэтая ў белай была. У белай, як снег...

— Э-эх, вы,—засмучана разводзіць рукамі Вася.

Праз хвіліну ўсе бачаць, як ён хутка бяжыць уніз, да прыстані, што толькі пачынае выплываць з туману...

Пераклад з рускай.







Выступае школьны хор. Народны артыст СССР Р. Р. Шырма ўручае памятны падарунак дырэктару школы М. І. Масальскай. Флейтыстка Аня—адна з музычнай сям'і Казлоўскіх.

## ДОМ, ДЗЕ ВЫХОЎВАЮЦЬ ТАЛЕНТЫ

**Так можна назваць Мінскую спецыялізаваную школу-інтэрнат па музыцы і выяўленчаму мастацтву.**

**Дзесяць гадоў таму назад школа аб'явіла першы набор на музычнае і мастацкае аддзяленні. А сёння ў ёй займаюцца 425 хлопчыкаў і дзяўчынак, якія прыехалі ў Мінск з Полацка і Салігорска, Крупак і Верцялішак — больш як з 70 населеных пунктаў рэспублікі.**

**З вёскі Вязынка ў школу прыехала цэлая сям'я: пяцёра Казлоўскіх займаюцца ў розных класах музычнага аддзялення.**

**Тут вучацца спяваць, іграць на розных інструментах, дырыжыраваць хорам, маляваць, ляпіць, чаканіць. Тут вучацца пранікаць у свет гукаў і фарбаў, разумець і любіць прыгожае.**

**Днямі школа адзначыла свой першы юбілей. Дзеячы мастацтваў Беларусі — мастакі, музыканты горача віншавалі выкладчыкаў і вучняў першай у рэспубліцы школы для адораных дзяцей.**

ПРАЦЯГВАЕМ РАЗМОВУ АБ ЛІТАБ'ЯДНАННІ

# НЕ МОДА, А ПАТРЭБА

Праглядаючы раённыя ды і іншыя газеты, у апошні час усё часцей і часцей сустракаеш літаратурныя старонкі, куткі і калонкі паэзіі. Нярэдка паведамляецца аб стварэнні новых літаратурных аб'яднанняў. Паэзіяй, літаратурай наогул, у нас шырока цікавіцца не толькі моладзь.

Гады два назад мы распаўсюдзілі сярод чытачоў сваёй газеты анкету, у якой было і такое пытанне: «Якія матэрыялы вам падабаюцца ў газеце?» І працэнтаў семдзесят апытаных у ліку іншых матэрыялаў назвалі выпускі літаратурных старонак. Так адказвалі і школьнікі, і калгаснікі, і рабочыя, і інтэлігенцыя.

Далей. Неяк на адным з пасяджэнняў літаб'яднання мы прыйшлі да высновы, што нельга бясконца замыкацца ў вузкім коле, трэба шукаць больш шырокай сувязі з людзьмі. Вырашылі правесці ў раённым доме культуры літаратурны вечар. З нецярпеннем чакалі гэтага дня. Непакоіліся, ці прыйдуць людзі паслухаць нас, а калі прыйдуць, то як успрымуць творчасць пачаткоўцаў. Аднак вечар прайшоў цікава, зала была перапоўнена. Прымалі выступленні добра. Гэта нас узрадавала і акрыліла. Было вырашана тады зрабіць такія вечары традыцыйнымі.

І вось нядаўна мы сустракаліся з нашымі чытачамі чацвёрты раз. Калі раней у зале збіралася пераважна моладзь, то сёлета недзе каля палавіны склалі людзі сталага ўзросту. Вечар працягваўся каля дзвюх гадзін. Але калі вядучы аб'явіў, што праграма вычарпана, ні адзін чалавек не ўзняўся з месца: завязалася шчырая, непасрэдная гутарка пра літаратуру.

З кожным годам павялічваецца прыток пісем у нашу газету. У пісьмах шмат вершаў і апавяданняў (больш вершаў). Вельмі шмат пішуць школьнікі, моладзь, але ёсць аўтары і з багатым жыццёвым вопытам. Вядома, у большасці дасылаюцца першыя спробы пяра. Як быць у гэтым выпадку супрацоўнікам рэдакцыі? Абмежавацца адпіскай?

Так нельга, бо за кожным пісьмом жывы чалавек, які чакае парады, дапамогі, адказу нават на такое, на першы погляд, смешнае пытанне: «Ці можна падлетку пісаць вершы аб каханні?» Па-другое, мы павінны з усіх пачаткоўцаў вылучыць лепшых, больш здольных, каб папоўніць, прынамсі, наша літаб'яднанне. Далёка ж не бездакорнымі ў свой час былі школьныя вершы, напрыклад, «крынічанкі» Ніны Мацяш, а цяпер яна — член Саюза пісьменнікаў БССР.

А вось у З. Вільнер пасля дзесяцігодкі была іншая школа — школа вайны. Семнаццацігадовай дзяўчынкай пайшла Зіна на фронт. Праз многія гады паспрабавала свае сілы на літаратурнай арэне. Атрымала ў нашай газеце падтрымку. Цяпер член бюро літаб'яднання «Крыніца» З. Вільнер — аўтар апублікаванай у часопісе «Уральский следопыт» аповесці «Я кахаю вас...», напісанай на матэрыяле вайны, працуе над новымі апавяданнямі.

Не бяда, калі член нашага літаб'яднання і не стане пісьменнікам — хай ён папоўніць вялікую армію аматараў літаратуры або знойдзе сябе ў журналістыцы. У нас ёсць і такія. Узяць хоць бы былога выхаванца літаб'яднання, цяпер супрацоўніка рэспубліканскай «Сельскай газеты» А. Казловіча.

Падобных прыкладаў я мог бы прывесці значна больш. Але я хачу спыніцца на асобных пытаннях, узнятых у артыкуле загадчыка аддзела культуры рэдакцыі абласной газеты «Мінская праўда» У. Кобрына «Таленты... Каму іх адкрываць?».

Я згодзен, што яшчэ далёка не вырашана праблема выхавання маладых аўтараў. Шкада, што асабістыя кантакты пачаткоўцаў з вядомымі пісьменнікамі — з'ява вельмі рэдкая. Прыгадваецца, якія творчыя зарад давалі «крынічанцам» у свой час сустрэчы з М. Танкам, А. Макаёнкам, Б. Спрынчанам, Я. Брылём, С. Грахоўскім, А. Грачанікавым, Я. Семяжонам і некаторымі іншымі! Мы пазбаўлены і той магчымасці, якую выкарыстоўвае сталічная газета, даючы на сваіх старонках слова пра маладых вядомым пісьменнікам. Таму я галасую і за выданне дапаможнікаў для пачаткоўцаў, і за выпрацоўку добра прадуманай праграмы заняткаў. Гэта дало б літаб'яднанням вельмі вялікую карысць, пазбавіла б іх тых пошукаў, якія часта не даюць жаданых вынікаў.

Статут літаратурных аб'яднанняў? Што ж, у гэтым таксама ёсць рацыя. Па асабістаму вопыту ведаю, што для больш плённай работы аб'яднання неабходна пэўная структура.

Так, мы спачатку прыйшлі да вываду, што літаб'яднанню варта даць імя. Нарадзілася «Крыніца». Затым абралі кіруючы і каардынацыйны орган — бюро (яго склад перавыбіраецца праз два гады). Наступным крокам была выпрацоўка ўмоў прыёму і выключэння з «Крыніцы». Неўзабаве літаб'яднанне прыняло пэўную форму, перастала быць нечым аморфным. І гэта дало свае вынікі: мы пачалі штомесяц выпускаць літаратурную старонку, часцей і больш мэтанакіравана праводзіць пасяджэнні, хутка вырашаць арганізацыйныя пытанні.

У чэрвені мінулага года А. Вярцінскі ў надрукаваным у «Знамени юности» артыкуле «Мастак, выхавай вучня» пісаў, што Саюз пісьменнікаў БССР мае намер правесці семінар кіраўнікоў і актывістаў мясцовых літаб'яднанняў. Думаю, што неабходнасць у гэтым даўно наспела.

**Я. СЯЛЕНЯ,**
намеснік рэдактара бярозаўскай раённай газеты «Маяк камунізму», кіраўнік літаб'яднання «Крыніца».

## СТВАРАЛЬНІКІ ПРЫГОЖАГА

У гэтыя дні на ВДНГ БССР незвычайныя экскурсаводы: навучэнцы Бабруйскага мастацкага гарадскога прафесіянальна-тэхнічнага вучылішча № 15 Галіна Шпак і Віцебскага тэхнічнага вучылішча № 19 Раіса Бялова. Лепшыя работы гэтых дзяўчат і іх таварышаў прадстаўлены на тэматычнай выстаўцы мастацкай творчасці будучай рабочай змены, якая адкрылася тут.

Экспанаты, выробленыя ў гуртках мастацкай творчасці гэтых вучылішчаў, не раз дэманстраваліся ў Маскве і цяпер экспануюцца там на ВДНГ у павільёне прафтэхадукацыі.

**БЕЛТА.**

## КЛУБ НА КОЛАХ

У адзін з пагожых веснавых вечароў у поле да працаўнікоў калгаса імя Фрунзе Рэчыцкага раёна прыехаў «клуб на колах». Перад хлебаробамі выступіў лектар райкома КПБ Свярчкоў, які пазнаёміў з падзеямі міжнароднага жыцця, адказаў на пытанні прысутных.

Затым адбыўся канцэрт удзельнікаў агітбрыгады Азершчынскага дома культуры Рэчыцкага раёна. Хлебаробам спадабалася кароткая, але змястоўная праграма. Клуб на колах карыстаецца вялікім поспехам у слухачоў.

**І. САВІЦКІ.**

## *НОВЫ НАРОДНЫ*

За творчыя поспехі ў мастацкім абслугоўванні насельніцтва Міністэрства культуры БССР прысвоіла званне народнага самадзейнаму ансамблю танца Тураўскага гарадскога дома культуры Жыткавіцкага раёна Гомельскай вобласці.

Ансамбль танца створаны ў 1964 годзе. З дня заснавання і па сённяшні дзень ім кіруе М. Котаў.

Рабочыя, служачыя, калгаснікі, школьнікі — 52 чалавекі пастаянныя ўдзельнікі ансамбля. Акрамя таго, пры калектыве створана падрыхтоўчая група, якая рыхтуе будучых танцораў.

Аснову рэпертуару творчага калектыву складаюць беларускія народныя танцы, танцы народаў СССР.

Самыя папулярныя сярод іх «Матлёт», «Лявоніха», карагод «Вяснянка», «Тураўская кахaначка», «Тураўская старадаўняя полька», украінскі «Гапак», румынскі танец «Пастушкі» і іншыя.

Вялікім поспехам у гледачоў карыстаецца літаратурна - харэаграфічная кампазіцыя «Дружба», прысвечаная 50-годдзю ўтварэння СССР.

Калектыў вядзе вялікую работу па абслугоўванню як сельскіх, так і гарадскіх жыхароў. Ён выступаў у Мінску, Гомелі, Мазыры, Калінкавічах і іншых гарадах.

У 1965 годзе танцавальны ансамбль выступаў на ВДНГ СССР, за што ўзнагароджаны Ганаровай граматай ВДНГ і Вялікім бронзавым медалем.

